УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Г15

Мастакі
Кшыштаф Цывіньскі і Катаржына Паўліца

**Галавач, Н.**
Г15 Вальс пра котку : вершы / Наталля Галавач. — Мінск : Кнігазбор, 2022. — 176 с.
ISBN 978-985-883-053-3.

У зборнік увайшлі вершы, створаныя ў апошнія гады. Большасць з іх, ды і ўся кніга ўвогуле, прысвечана памяці мамы паэткі. Лірычная гераіня Наталлі Галавач не піша вершы, яна дыхае імі. Далікатная, пяшчотная, чуллівая. Аднак з пачуццямі тут добра ўжываецца думка. Ім утульна разам. Кожны верш – зладжаны, кампазіцыйна завершаны, нечаканы, непаўторны і вытанчаны, з пэўным псіхалагічным падтэкстам, і ў кожным з іх эмоцыі і перажытыя пачуцці аўтара, якія заўсёды блізкія, зразумелыя кожнаму чалавеку.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-883-053-3**

*Прысвячаецца маме*

# Вершы
# 2012–2021

* * *

Зіма.
Марозна.
Холадна.
Тужліва.
Сасновая хавае зеляніна замерзлую
пужлівую варону.
Хадой людскою вытаптана сцежка.

Так ветрана.
Студзёна.
Цёмна.
Зімна.
Пад дрэвамі і кусцікам язміну каторы год
спраўляеш нараджэнне.
Пад коўдрай снежнай цёпла табе, мама?



## Судакрананне з нябёсамі

У кішэні твайго новага паліто
Ляжалі дзве скамечаныя насоўкі,
Увабраўшыя слёзы блакітных вачэй
Пяць гадоў таму,
Што ліліся бясконца па твары
Пасля дваццаці пяці дзён апраменьвання.
Засохлыя скамечаныя насоўкі —
Судакрананне маё з табой.
Судакрананне з табою жывой.
Судакрананне з тваімі нябёсамі.
Мама...



## Маме

Цябе не пахавалі, не.
Ты толькі выйшла на хвілінку.
Ты не пакінула мяне.
Сваю маленькую дзяўчынку
Ты сустракаеш зноў у сне.

Дык затрымай мяне, імгненне,
Хачу сказаць, што не паспела,
Што не змагла і што б хацела.
Маўчыць нямое сутарэнне —
Страшэнных мук тваіх збавенне.
Цябе не пахавалі, не...



## На летніку

Гляджу я на кроплю расы
Праз узор павуціння,
Сатканага нейкім дзівосным ткачом-лесуном.
Ад расы ці слязы
Неба мружыцца сінню
І маміным вокам цікуе за мною даўно.

І ўсё як заўжды —
Прывячае усмешкай світанак
І ткуцца імгненні умелым і хуткім ткачом.
Вядзерца вады
Мама моўчкі паставіць на ганак,
Хіснецца у сенцах стамлёным худзенькім
плячом.



## Летнім вечарам

Вечар ціхі палёгкай цнатлівай
Песціць моўчкі мае валасы.
Недзе ў лозах зялёных шчасліва
Птушак шчодра звіняць галасы.

Не дзяўчынка, а веру ўсё ў казкі,
Што складаю раз-пораз сабе,
З непрыкметнае Божае ласкі
Яны цешаць у вечнай сяўбе.

Аздабляе, сыходзячы, ветах
Неба зорнага ціхую гладзь.
У азёрах купаецца лета,
Светлякамі лілеі глядзяць.



## З Бродскім у Венецыі

*(парафраз на тэмы)*

Мае шпацыры з Бродскім па каналах
Венецыі самотнай і туманнай
Так значаць шмат.
І значаць вельмі мала,
Бо сварыцца за нашы стрэчы мама.

Ёй замінае розніца ва ўзросце.
Ну што там нейкіх дваццаць год ці болей?
Затое падыходзім мы па росце
І па заўсёднаму жаданню волі.

Яго і «э-э...» і «а-а...» як гук лагуны,
Як рыскі на прыціхлых водных хвалях.
Гайдаецца на іх старая шхуна,
Друкуюцца адвечныя скрыжалі.

Мне Одэна чытае ён і Фроста
У «Фларыяне».
Дольчы* мы не елі.
Плануем яшчэ сёння да пагоста
На улюбёны востраў Сан-Мікеле.

Праз гукі песні тужнай гандальера,
І крыкі-стогны чаек, шоргат качак,
І дух самога Дантэ Аліг’еры,
І звон касцельны — плачам, плачам, плачам,

Што ў свет сплывуць бясконцыя нябёсы
Такім невычарпальным пульхным цудам,
І мы радкамі — вершамі ці прозай —
Гукаць аднекуль іх аднойчы будзем.

---

* Дольчы (іт.) — салодкі дэсерт: цукеркі, печыва, піражныя і інш.

І што заўсёдны недзе тут пад горлам
Каляны ком. І ў вечным тым кружэнні
Слядкуе па пятах за намі гора,
І смерць бліжэй ужо, чым нараджэнне.

А мы ў пакутах цешым сябе казкай
Пра нейкага такога дабрадзея,
Жывем са спадзяваннямі на ласку,
На ласку, на жыццё і на надзею.

Нібыта вернуцца і вечны свет, і слава,
Удалы дзень, і будзе ўдосталь хлеба.
Нібы жыццё хіснецца крышку ўправа,
Як перад тым хіснулася улева.

Венецыя не ведае марозу,
Ёй уласціва восеньская просінь.
Але я мерзну ў крушні на парозе,
І курыць, як заўжды, зашмат Іосіф.



## Родная душа

За цяжкасцю свайго крыжа,
Бывае, не прыкмеціш,
Што недзе родная душа
Жыве на белым свеце.

Яна адкрыта назаўжды
І шчырасці, і цуду.
Выратавальныя сляды
Яе шукаць я буду.

Калі ж душы такой няма —
Адзінае у свеце,
Тады і Творца нас дарма
Пакінуў у Сусвеце.



* * *

Скідае ліст апошні парк стары,
Бы распранае безліч людскіх лёсаў.
І хто б там што і як ні гаварыў
Пра восеньскія пекныя нябёсы,

Пра фарбы, верасы, і лістапад,
І на дзівосы шчодрыя бары,
Балоты, і цяжарны плодам сад, —
Ну не люблю я тужнае пары,

Ну не люблю я восеньскую просінь,
Прасвечвае праз голле што наскрозь,
Дзе літасці маўкліва дрэвы просяць,
Дзе валадарыць вецер і мароз.



## У пакоі

Паглядаюць і рэчы, і сцены
То з даверам, а то са спагадай.
Вечаровыя прывіды-цені
Ажыўляюць пакой зоркападам.

Тут здараюцца зрэдку абноўкі,
Парушаючы звыклы парадак.
Шафам з кніжкамі, лямпам, алоўкам
Гаспадыні вядомы характар.

Усміхаюцца хітра шпалеры,
Нібы зноўку адметны іх колер.
Сталі рыпаць завесамі дзверы,
Не заўсёды гарыць жырандоля.

А ў астатнім — здавён завядзёнка:
Над канапай — чатыры карціны,
На фано спачываюць пярсцёнкі.
Грэюць позірк гарлачыкі з гліны.

Карагодам кружляюць па дому
Хатніх рэчаў зімовыя сцені.
Што ў іх вочы ёсць — гэта вядома,
А вось душы ці ёсць у мігценні?



* * *

Разламалася жыццё на дзве паловы:
*«ДА ТАГО ЯК...»*
І *«УЖО КАЛІ ПАСЛЯ...»*
І сказаныя табой аднойчы словы
Прыняла спагадная зямля.

Толькі не пшаніцай і не жытам
Каласяцца словы на раллі —
Пустазеллем летнім узышлі.
У чарговы раз ты ўсё заблытаў.

І асот калючы, і макрыца
Спавілі карэннямі зямліцу.
Пасярод той колішняй раллі
Дзірваном няшчадным праляглі.



## Зорка

Ляцела зорка з нябёсаў,
Гарачая, залатая.
Акрыленая, узнёслая,
Прыгожая, маладая.

Была яна працай плённаю
Нябеснага Майстра з блакіту,
Адкрытаю, запалёнаю
Вандроўніцаю з нябыту.

І многім не спадабалася
Гарэзлівай мілатою.
Павінна, усім здавалася,
Хадзіць яна пехатою.

Дый з зорак крыху выбівалася
Гарачынёй сваёю,
Вось так і не затрымалася
Лятаць над грэшнай зямлёю.

Услед за зоркай лячу,
«Мяне пачакай!» — крычу,
Бо я, як выгнанніца раю,
Шляхамі тымі ж блукаю.



* * *

Тыя, хто любіў нас калісьці,
Хто лічыў нас амаль што за Бога,
Ападаюць здранцвелым лісцем,
Выбіраючы ў вечнасць дарогу.

Выбіраючы ў вечнасць дарогу,
Ужо намі не мусяць сагрэцца.
На спатканне з сапраўдным Богам
Мкне душа, ды трывожыцца сэрца.



* * *

Тумановаю вуліцай крочу,
Ні шумлівых машын, ні людзей.
Дзень нібыта крышанак сірочы,
Не відно яго сёння нідзе.

Углядалася, думала, ўбачу
Я яго праз слату і туман.
Толькі позірк галодны сабачы,
Толькі сум і туману падман.



## Шапэн

Збіваючы і пульс, і сэрца рытм,
Зрываючы і дахі, і балконы,
Ствараючы ўласныя законы,
Ён кожны раз ляціць метэарытам.

Ён кожны раз ляціць на зрыў аорты
За вогнішча гарачай сіняй рампы,
Праз жалюзі старой, счарнелай рамы,
Праз шчыльныя рады сваіх акордаў

Мкне да святла. Ён сам — прамень Сусвету
З далечыні, яшчэ мне невядомай.
Ён жыў і у мяне дагэтуль дома,
Ды не жыве з другой паловы лета.

Ён кожны дзень мой мог рабіць экспромтам,
Ён сам — экспромт. Але і можа раптам
Шаптаць на вуха вальсавым затактам
І пальцамі жаночай шыі тонкай
Кранацца так, нібы кранае цішу.

Я б разам з ім лятала і ляцела б,
Я так тады сказаць яму хацела,
Каб вырваў маё сэрца з цела
І са сваім умураваў у нішу.



## Бяссонне

Гадзінніка роўнымі рухамі
Паўзеш ты, нібыта змяя.
Бяссонне маё чарнарукае,
Як марна смяялася я!

Варожымі чорнымі хвілямі
Выходзіш у ноч з-пад зямлі,
Каб тыя, каго мы любілі,
Нябачна за намі ішлі,

Каму безаглядна мы верылі,
Дарылі сябе мы штодзень.
Бяссонне маё неймавернае
За мною штоночы брыдзе.

Сваёю нахабнаю пыхаю
Згібей у пякельным віры.
Я дыхаю, дыхаю, дыхаю,
Бы рыба на млосным жвіры.



## Смерці няма?

Смерці няма.
Ці ёсць?
Хто адкажа?
Я бачыла чорную пустату,
Як бясконцасць.
Добра было там.
Спакойна.
Такая раскоша душы незямная.
Сюды не хацела.
Прымусілі.
Прымусілі вочы адкрыць, акрапіць іх вадою.
І боль, і пакуты адчуць.
І адбыцца другою.
Магчыма, што з нейкаю *новай* душою?
Ці ўсё ж такі з *тою*...



## Паштовая скрынка

Дзіўна быць да дзівосаў гатовую,
Не зважаючы на гады.
Ды ўсё сніцца скрынка паштовая,
А у скрынцы — твае лісты.



## Нідзе

Мяне хацеў наблізіць да сябе,
Каб я была сабою і з табою.
І каб у цяжкай змушанай сяўбе
Я засталася вечна маладою —

Што засталася
*НЕДЗЕ* там *НІДЗЕ*
І што аб тым
Нікога не прасіла.
Зімовы ранак спуджана мігцеў,
Апошнія растрачваючы сілы.



## Мама

Са сваімі нажытымі пыхамі
Аж да рання да самага
Перамерваю, перадыхваю
Я усё сваёй мамаю.

Пераходжваю кіламетрамі
Я кватэру у два пакоі.
У вітальні берэцік фетравы
Прытаміўся ад супакою.

Плямай сціплаю светла-ліловаю,
Нібы лямпаю, сцены асвечвае.
Назапашваю яе словы я,
Як на нітку каралі навешваю.

Я іх чую праз дні і праз месяцы,
Праз гады, што сякуць без джала.
Мама, мама, тваёй равесніцай
Неўпрыкмет я сягоння стала.



## На Раство

Уколеш непаголенай балюча
Шчакою, бы каляднаю галінкай.
Сабою, нібы водарам гаючым,
Усцешыш пад бялюткаю прасцінкай —

І доўга потым водар родны сніцца.
І буду зноў чакаць званка уночы.
Мне у вакно замерзлая сініца
На ранку дзюбай стукае прароча.



## Зіма

Бывае лёгка і у час суровы.
І хоць зіма і цісНуць халады,
І хоць ты будзеш зноўку хмурыць бровы,
І хоць бягуць нястрымныя гады —

Пяе званок.
Рыпяць узнёсла дзверы,
І адступае роспачы мяжа,
Бо з-пад усмешкі з лёгкім недаверам
Глядзіць твая дзіцячая душа.



* * *

Не так зашмат такіх жанчын —
З вачыма бездані глыбокай,
З душой наіўнай і высокай,
Як подых лёгкіх аблачын.

Хадой імклівай перайсці
Ваш лёс яны не могуць двойчы.
Такіх жанчын толькі аднойчы
Спазнаць вы можаце ў жыцці.



## Нявыкананы вальс Шапэна

Я прызвычаілася жыць у цішыні.
Ніхто не крыкне,
Не заплача,
Не ўздыхне.
Як у дзяцінстве, ты усмешкай калыхні,
Даруй памылкі неабачлівыя мне.

Я навучылася таксама дараваць,
Бо ўсё найлепшае, напэўна, ад цябе.
Цяпер і часу мне стае салодка спаць,
Але не спіцца ў незгаворлівай журбе.

Яна цяпер замест цябе жыве у нас,
У нашай хаце ёй прызначаны пастой.
Ні электрычнасць не патрэбна ёй, ні газ,
Не карыстаецца ні лазняй, ні вадой.

Прасіла, памятаеш, вальс табе сыграць?
Ён у нябёсы феерверкамі імчаў.
Ты можаш, мама, мне і гэта дараваць,
Што ў дзень апошні для цябе ён не гучаў?

Прылягу ноччу я
І чую зноў уздых.
Ён чый, матуля,
Адкажы мне, адкажы?
Нясцерпным болем ты вярэдзіш зноўку слых,
Душа распнута на тваім нямым крыжы.

У гэту нудную халодную імжу
Мне так патрэбна было б шмат табе сказаць.
Ну што з таго, што я на могліцы хаджу?
Што не пачула ты — цяпер мне не сказаць.



## Сцяна

Тоўстыя сцены дамоў
Збудаваны былі паратункам
Ад холаду, сцюж і дажджоў.
Ды розныя сцены бываюць.

Вось за гэтай сцяной
Скрычаўся ад болю твой боль.
Калі цяжка ўжо так,
Што больш і не можаш крычаць.

Што калі яшчэ крыкнеш,
У тое ж імгненне памрэш.
І маўчыш,
Баючыся і вочы адкрыць,
І ўздыхнуць.

Мімаходзь той сцяны
Мы праходзім ізноў і ізноў.
І не чуем ні крыкаў адтуль,
Ні болю адчаю людскога.

Прыпыніся на хвілю.
Пастой.
Паглядзі —
Вось сцяна,
Збудавана яна паратункам
Ад холаду, сцюж і дажджоў.



* * *

І гэта вайна, што з’яднала знарок нашы лёсы,
Не скончыцца хутка, не згіне ў бязвечным
прадонні.
Калі ж калі-небудзь кранеш ты сваёю далонню
Мой твар і заўчасна збялеўшыя косы,
Што змоклі пад гэтай аслеплай і стылай залевай,
Ты ведай, што я — усё ж тая твая каралева.

Што доўгім чаканнем дарогу у шмат кіламетраў
На вырак шчаслівы з надзеяй штодзень
благаслаўляла,
Што моцы ў руках заставалася, верыш мне? —
мала,
Што косці пранізвала восень бязлітасным
ветрам,
А ў сэрцы усё неспадзеў панавала пяшчота
Да высяў тваіх і вясёлых вачэй тваіх цноты.



## У Балотных Ялінах

> Хаваючыся напалову ў тумане, імчыць над змрочнай зямлёй дзікае паляванне.
>
> *У. Караткевіч*

У Балотных Ялінах жыве даўні страх,
Ані радасці, ані спакою.
Днём і ноччу лютуе раз'юшаны Стах,
Абвясціўшы народ свой ізгоем.

Зацугляныя коні імчаць і імчаць,
У дварах і сабакі не брэшуць.
Вастраверхія вусцішна дзіды стырчаць,
Караля тыя коннікі цешаць.

Рвецца д'ябальскім крыкам зняважлівы рог,
А навокал пакора пануе.
Дык калі ужо ціхае водгулле Бог
Галасоў занядбаных пачуе?

Там шчыруе яшчэ запалоханы птах
І блакітам натхняецца бусел.
А ці знойдзем калі мы той згублены шлях
Да зямлі, што завём Беларуссю?



# Мы

Нібы пад нейкім сцішаным прымусам
Мы размаўляем часта ні аб чым.
І любім мы з табой, як беларусы,
І так жа, як яны, — з табой маўчым.



## Калі...

Калі цябе я любіла
Была зіма
Было лета
Ды табой было не сагрэта
Тое нібы гарачае лета

Калі цябе я любіла
Знаёмымі ззялі вачыма
Зоры ў нябеснай вышы
І ночы здаваліся днямі

Калі цябе я любіла
Літары з гукамі перапляталіся
Любіліся
Мілаваліся
Бурштынам блішчэлі на шыі
Нібы ў Панны Нясвіжа

Калі цябе я любіла
Думала я каралева
З каронай на галаве
І німбам святым празрыстым
Спякотаю і залевай

Калі цябе я любіла
Анёлы мяне цярпліва
Лятаць вучылі
І навучылі

О колішні мой шчасны час
О невымоўны
О немагчымы
Я ведаю ты не верыш
Калі гавару «калі»



* * *

Бягу я ад сябе усё хутчэй.
Цікавіць мяне фініш майго кросу.
Пагляд самотных восеньскіх вачэй?
Банальна.
І на першы погляд проста.

Чаго чакаю?
Дзе прытулак мой?
І вільгаццю ці выстудзяцца вочы?
Не лечыць дзень.
Не цешыць позірк твой.
І камянямі восеньскія ночы.

Так страшна жыць з маною.
І без веры.
Злятаюць дні у сцішаны абшар.
Каторы дзень адчыненыя дзверы
У прадчуванні летуценных мар.



## Абдымаю сонцам

Назалела хавацца у маі
Прамяням па-за хмары бясконца,
Бо з зімы акурат абдымаю
Я цябе раскатурханым сонцам.

Яшчэ ў лютым яго прамянямі
Неўзаметку і з любасцю грэла.
Падзівіўся ты неяк тут днямі,
Твар чаму твой даўно загарэлы.



## Імя тваё

Нязломнае, як вежы камяніцы,
Лунае па-над скрушнымі вякамі,
Імя тваё — бы водгалас званіцы,
Загнанае ў мяне цвікамі.



## Восені

Ты пазіраеш шэраю ваўчыцай,
Жаўтлявым вокам сочачы за мной.
Ну як, скажы, ну як мне навучыцца
Жыць у суладдзі з тужнаю парой?

Жыць у суладдзі з сіверам і слотай
І з немаччу бясконцых туманоў?
Калі й лісця не бачна пазалоты
І шчэ жывых зялёных дзірваноў?

Ты на хвіліны прыхавала моцу,
Адцягваючы крэўны тэрмін мне.
Драпежніца, за высахлым балотцам
Ужо чакаеш, ведаю, мяне.

Над галавой маёю невысока,
Нібы за штось пазбаўленыя раю,
Плывуць па небе волкія аблокі
За далягляд ваўчынай хіжай зграяй.



## Восеньская мудрасць

Я не люблю, калі краса спадае
І ў свеце нараджаецца туга,
Калі ў яшчэ нядаўна гучным гаі
Спадарыць восень — нудная карга.

А сёння не ашчэраным паглядам,
А нейкай недасяжнай глыбінёй
Сачыла восень зраніцы за садам.
І ўзрост здаваўся ўжо да твару ёй.



## Блюз

Верасень настройвае на блюз
Тужную дрыготкую лістоту.
За руку з сяброўкай Адзінотай
Пад віхуру лісця танчыць блюз.

А сяброўка лепей за сяброў
Разумее восеньскую просінь.
Ратаваць душу яго увосень
Можа лепш, чым тузін дактароў.

На яе натомленых руках
З павуціння вытканы пальчаткі.
Хай зайздросцяць модніцы-дзяўчаткі
Тоненькім пальчаткам на руках.

Ён апошніх дзён сваіх цяплом
Саграваe дрогкія далоні.
Прыпадае вуснамі да скроняў
І цалуе любае чало.

Іх тандэм, іх даўнішні хаўрус
Не здзіўляе шмат гадоў нікога.
«Мача» — ён.
Яна ж супроць — нябога,
А у рэшце рэшт — сузор'е муз.

Час саспеў — і адчыняе шлюз
Ён дажджам направа і налева.
Пад рытмічным дробатам залевы
На абцасах тонкіх каралевай,
Крок управа — раз,
Два, тры, чатыры — ўлева,
Адзінота кружыцца пад блюз.



## Анёл

Бяскрылы анёл.
Ён амаль паміраў,
Ратуючы нечыя лёсы.
У цемені ночы няўцешна згараў,
Па твары каціліся слёзы.

Ён моцу згубіў у бяссонні начэй,
Ушчэнт ён пазношваў адзенне,
Ад пылу пагляд прытупіўся вачэй,
Не стала былога мігцення.

А крылы свае ён даваў напракат,
Каб мы набіраліся сілы,
Ды іх адзін раз не вярнулі назад,
Без крылаў анёлу ж — магіла.

Зраблю я з вільготнай яму іх расы,
Пазычу у сонейка промняў,
Святлом каб аздобіць яго валасы
І каб пра мяне крыху помніў.

Цяпер, мой анёл, развітаемся мы —
Ляцець у нябёсы ты можаш,
Калі занядужу ад скрушнай зімы,
Тады, можа, мне дапаможаш.

Бо я свае крылы даю, як і ты,
Зняверaным лётаць у неба,
А што — калі іх забяруць назаўжды,
Абыдуцца з імі ганебна?

Дык ты прылятай у той час да мяне,
Мо зладзіш з чаго-небудзь крылы.
Жыццё без палёту падобна мане,
Без крылаў — ні руху, ні сілы.



## Месяц

У сонным небе месяц заблудзіўся,
Бо збочыў на нязручную дарогу,
І да мяне на ночку напрасіўся,
Прынёс здалёк здзіўленне і трывогу.

О месяц, месяц!
Вольны ты ў Сусвеце,
Сябруеш з кожнай зоркай у нябёсах.
Няўжо твой так не склаўся лёс там,
Што на зямлі мяне ты запрыкмеціў?

А ён маўчаў.
І цешыў мае вочы.
І запалёна рукі цалаваў.
Так і стаялі — двое сярод ночы,
Пакуль самотны ранак не настаў.



## Дзень народзінаў Шапэна — 1 сакавіка

Ты дзень яго напомніў сёння мне.
А я ізноў забылася пра тое.
А я усё блукаю па зіме,
Якая парадніла нас з табою.

Сталіся самотныя партрэты,
Адзін з іх — улюбёнага Шапэна.
І ўсё ж душой у лютым не сагрэты
Ні ты, ні ён, ні вечар злосны гэны.

Удзень у нас завея моцна выла,
Гарбаціла і працінала спіны.
Прэлюдыя e-moll «Па-над магілай»
Цвікамі б’е драўлянай дамавіны.



## Два вершы аднога дня

*1*

Раскідала па падушцы валасы,
Распляла употай ночка тваե косы.
Няхай потым палымнеюць верасы,
Няхай потым набліжаюцца марозы.

І чароўнай, і затоенай красы
Не спакусяць хай тваե гаротны слёзы.
Не паслухаліся жалю верасы,
І так хутка набліжаюцца марозы.

*2*

Душа застыла так, як камяніца.
Ці выпадзе агменем ёй сагрэцца?
Я ведаю, што поклічам спазніцца
Зляцець у тваё скрыўджанае сэрца
Пагляд і крык душы незразумелай.

Бывае чорным дзень, а ноч —
Бывае
Белай.



## У маміным палісадніку

Ірву траву здзічэлую на градах.
Вачэй заснуўшых зноў лаўлю святло.
Пасаджаным калісьці вінаградам
Пустое абдымаеш ты жытло.



## Калі ты — Бог

Мама ў дзяцінстве была сонцам.
З яе пачынаўся дзень.
Потым акенцам.
Яна адкрывала свет.
Потым ахоўнікам.
Вартаўніком калі стала —
Злавала мяне.
Раздражняла.
Потым зусім яна быццам патрэбна была,
быццам не.
У час апошні яна стала Богам.
Сказаць бы...
Няма каму.
Але, быць можа, мама, калі ты — Бог,
Дык мяне чуеш?



## Арабінавая туга

Так хутка ліпень адышоў.
За ім і жнівень неўзаметку
Свае аранжавыя меткі
Заўчасна пакідае ўжо
На арабінах у двары.
А тыя мрояць мандарынам
Або яшчэ якой цытрынай,
Але, хто б што ні гаварыў,
Не ўсім салодкай смоквай быць.

За ранняй жнівеньскай смугою
Прагоркла-кіслаю тугою
Узяць бы ўсё ды і забыць —
Памылак і няўдач віры,
Зрабіць бы з імі ўсё, што «пера-»:
На чыстай новенькай паперы
Перапісаць, перахітрыць.

Я з імі — нібы берагі
Ракі змялелай, днём і ноччу
Глядзім адно другому ў вочы.
І з арабінавай тугі,
Як толькі восень прыбрыдзе,
У шэрай змушанай нудзе
Аж да вясны нядолю смокчам.



## Дождж

Сумны восеньскі дождж.
У заўчаснай нудзе
На цябе ён падобны у нечым.
Неспадзеў прызначае сустрэчы
І на плечы таемна мне рукі кладзе.

І з лістоты зжаўцелае тчэ дываны,
Як якой каралеве пад ногі.
І не хоча прыспешваць дарогі
Да акрыленай шчаснай вясны.

Дзіўны роспачны дождж.
Ён ідзе і ідзе.
І ніколі не цешыцца сонцам.
Ты — як восеньскі дождж той бясконцы,
Ад якога схавацца не мушу нідзе.



* * *

Які ж ты трымаеш цяжар у душы,
Мой сябар задумлівы, тужны.
На гэтай пазначанай стромкай мяжы
Стаіш ты,
Адданы і мужны.

Нікому не бачны адценні журбы
На вірных, крутых скрыжаваннях,
Панеслі на крылах у свет галубы
Адметнае, светлае ранне.

Плячо непрыкметна падстаўлю крыху,
Бо так табе тое патрэбна,
У немачы ціхай усё берагу
Твой голас кранальны і срэбны.

Пакутаў, трывог, хваляванняў, бяды
Цябе я пазбавіць ці змушу.
У сініх нябёсах шукаў ты тады
Мой позірк — знаёмы і скрушны.



* * *

Дзякуй табе за каханне,
За голас, што чую у снах,
Лёгкі уздых на світанні,
Зоркі ў маіх валасах.

Дзякуй табе за натхненне
Анёлаў, спяваўшых з блакіту,
Пяшчотнае знічкі імгненне,
Зляцеўшай аднойчы з нябыту.

Дзякуй табе, што планідай
Я хоць на час табе стала,
Ты — як мая Атлантыда,
Недзе ў вяках што прапала.

Дзякуй табе за трывогу,
За тое, што вочы у вочы.
І дзякуй яшчэ твайму Богу,
Ён гэты пагляд напрарочыў.

Дзякуй за тое, што памяць
Кожнае слова трымае,
Што, як вішнёвая замець,
Прэч ад цябе уцякаю.

Дзякуй табе за бясконцасць,
Якую урэшце спазнала.
За тое, што радасным сонцам
Табе я і ноччу зіяла.



## Рэквіем Моцарта

Па-над дахамі поўня навісла,
Нeяк жудасна неба маўчыць,
У праклятым быцці, ненавісным,
Скрушны рэквіем ціха гучыць.

Цішыні выціраю я слёзы,
Гэта ж трэба — сяброўку займець!
Памірыліся мы з «Лякрымозай»,
Каб бяссонне тваё зразумець.

Мае сцены таемнасцю поўніць
Колер мудрасці строяў тваіх.
Так хітруе навіслая поўня
Над паверхам над трэцім маім.



## СМС

Захварэла заляцаннем,
Ды змяшаў усё прагрэс:
І сустрэчы, і расстанні —
Наш раман у СМС.

Замянілі ліставанне
Тэхналогіямі спрэс
І жывём цяпер чаканнем
Хуткакрылых СМС.

Адпраўляюцца жаданні,
Як прыспешаны экспрэс,
І ад вечара да рання
Мы друкуем СМС.

Крочыць па жыцці каханне,
А ў мяне суцэльны стрэс,
Бо лячу я на спатканне
Не з табой, а з СМС.

Каб ліліся вершаванні
Са спагадаю ці без,
Мне патрэбны, як дыханне,
Як ратунак — СМС!



# Дачныя вершы

## *Не чакайце*

Не чакайце, цяпер не заплачу —
Кіну я гэты ўжо інтэрнэт!
І паеду, паеду на дачу,
Вось збяру толькі нейкі абед.

Я адрэжу сабе лусту сала —
Не баюся зусім растаўсцець!
Бо занадта ж худзенькая стала,
Бо няма ўжо на што і глядзець.

Ваяваць буду я там з травою,
Можа, ежу звару з лебяды.
Разумею, што воўк за гарою
Нават здохне з палёгкай тады.

## *Сусед*

Вясна пяшчотай акварэлі
Гуляла з квеценню садоў.
Старыя, ссохлыя арэлі
Рыпелі радасна ізноў.

З нядаўна зладжанай тэрасы
Нахабна зыркае сусед.
А я на тоненькіх абцасах
Табе спяшаюся услед.

І тое так яму цікава,
Напэўна, туфлі ўпадабаў!
Ураз забыўся ён пра каву,
Якую у руках трымаў,

Калі крыху нespадзявана
Убачыў ён, як пад вярбой
Нясмела і зачаравана
Мы цалаваліся з табой.

І ўжо паглядам сарамлівым
Сачыў разгублена за мной.
Сусед успамінаў, мажліва,
Як цалаваўся ён вясной.

## ***Салавей***

Салавей салоўку клікаў
Адвячоркам напрадвесні.
Ён — малы, а свет — вялікі!
У вясновым гучным лесе,
Калі сонныя праменні
Пакідаюць наваколле,
Ён прыдумаў сваю песню —
І пра шчасце, і пра долю.

Быў музыка адмысловы,
Ноты ведаў з нараджэння.
Ды яшчэ дадаў ён словы
Пра каханне і кружэнне
Вальсам лёгкім і вясельным.
У зялёным гулкім гаі
Сеў на голле-каруселі,
І спявае, і спявае.

І пасажамі шпурляе
На стаката і крэшчэнда
Ці паціху замірае
Як бы на дзімінуэнда.
Ды прысвістам-флажалетам
Ён прымройвае шчасліва:

«Хутка лета, хутка лета!» —
То пяшчотна, то гулліва.

А каханая здалёку
Песню шчырую пазнала.
Хоць і лётала высока,
Штось для шчасця не хапала.
І зліліся едным лёсам
У адным сугуччы трэлі.
Калыхалі іх нябёсы
На сваіх лясных арэлях.



## Вецер

Мой дружа вецер!
Восеньскай парою
Прымрой мяне сваёю калыханкай,
Цябе ж, мажліва, суджаным прымрою,
Да скону буду вернай я каханкай.

Стаміўся ты ганяць па небе хмары,
Ні ўдзень, ні ўноч не ведаеш спачыну.
Ды чула я даўно пра твае мары
Займець хоць невялічкі адпачынак.

Перадыхні.
Усё зрабіў, што мог ты, —
Дажджы, залевы, скінутыя дахі,
Як ёсць — да ніткі сам наскрозь прамоклы,
І панаводзіў на людзей ты жахі.

Я ведаю, характар твой нялёгкі,
І люты ты бываеш, і лагодны,
Дарую пыхі ўсе твае з палёгкай,
Даўно лічу цябе я сябрам годным.

Як і належыць восеньскаму ветру,
Ты холадам навіснеш над плячыма
І шапачку з карычневага фетру
Сарвеш, нібы няўрымслівы мужчына.

Схаваешся маўкліва мне у грудзі,
Кранеш душу спагадаю-пяшчотай.
І за цябе судзіць не стануць людзі,
А ты мяне пазбавіш адзіноты.

І будзе ноч. Сном моцным і цнатлівым
Засне вятрыска стомлены да ранку.
Ці чуеш, як пранізліва-шчымліва
Злятае ў бездань мроя-калыханка?



* * *

Не было паміж намі нічога.
Проста стаялі, глядзелі адно на аднога.
Перад вачыма трымцела празрыстае нешта,
Падобнае ў чымсьці на Бога.

Ісці было трэба.
Часу зусім заставалася мала.
Тое, перад вачыма празрыстае нешта,
Рабіць таго нам ніяк не давала.



## Ты

Ты — гэта не ты,
Ты зыходжанне Божага Духу
Праз сотні стагоддзяў на мой паміраючы цень.
Ушчэнт спапяляе маю назалеўшую скруху
Твой непрыхаваны і палкі, і жаркі агмень.

Як Ён — ты мастак,
Што малюе душы дыяграму
І фарбай яскравай распісвае пульс мой і рытм.
Для гэтага твора
Набуду прыгожую раму,
Пакіну нашчадкам на памяць загадкавы той
алгарытм.

Цябе Ён стварыў,
Каб належаць не мог ты нікому,
Ды кожны каб меўся напіцца табою нагбом.
Я німбу твайму
Падзіўлюся, як ёсць залатому,
Што сонцам расквечвае мой непрыкаяны дом.



## Карціна летняга ранку

Два спадзяванні.
Сэрца адное.
Белае ранне
Бегла за мною.

Дзве паралелі.
Сутнасць адзіна.
Горкім алеем
Сохне карціна.

Чыстае неба
Розум вяртае.
Мёртвая глеба.
Я шчэ жывая.



## Тваe вочы

У цяжкі час сумнеўны, невыносны
Змагу я пасмяяцца над сабою,
Як нада мною лёс смяецца злосны,
Шпурляючы падманам і журбою.

Не стану давярацць я летуценням
І не паверу болей тваім словам,
Хоць і малюю фарбай каляровай
Душы расчараванай святлацені,

Бо з фотаздымкаў мрояць твае вочы,
Шалёным жарам поўняць позні вечар,
І не магу я ім, такім прарочым,
І не хачу — магутным — я не верыць.



## Перформанс
*(чытаць пажадана*
*на адным дыханні)*

Я вар’яцею ад цягнікоў
Што нясуць мяне у бясконцасць
А вецер шалёны ўрываецца ў вокны
Цалуючы прагна мае валасы

І я не шкадую аб тым што дару
Сябе суразмоўцам такім як я сёння вясёлым
і шчырым
Чамусьці мастачкай мяне называюць
Ці то закаханай
Што ў прынцыпе значыць адное

А сэрца грукоча рытмамі колаў
І вецер не можа ніяк супыніцца
У гонкім імпэце
Мілуе і песціць мне вочы і вусны
Фарбуе румянец на твары
Не хоча аддаць цягнікам нізавошта
Мяне ён
Не
Гэта не вецер
З табою мы ведаем хто



## Я забіваю у сабе каханне

Я забіваю у сабе каханне,
Што пра сябе забыцца не дае.
Яго я вытраўляю на карэнні,
Яно ж ізноў
З нямога сутарэння
Мне голас непазбыўны падае.

Даўно яно займела два аблiччы.
Дзве маскі.
Толькі пара вось вачэй
Адная ў іх,
Што зноўку абяцае
Мне вогнішча спакуслівага раю
Кароткіх дзён і скрадзеных начэй.



* * *

Чалавек разглядвае руку.
Нібы нешта разумее ў рысах.
А жыццё, як хітрая актрыса,
Не глядзіць на гэтыя абрысы,
А хавае дулю ў кулаку.



## Словы

Якія словы нараджаеш!
Павер, аб тым я не прашу.
Ты імі зброю зараджаеш,
Каб расстраляць маю душу.



## Памяць

Абдыме, пацалуе рагатуха,
Аблапае нахабнымі рукамі,
І шэпча-шэпча жарсці мне на вуха,
І галаву ўпрыгожвае вянкамі.

З хітрынкаю нахабніцы распуснай,
Лісіцай адмысловаю уночы
Мілуе плечы, грудзі, вочы, вусны
І перадыху мне даваць не хоча.

Яшчэ злякне, бы пудзіла якое,
У аканіцы звонку загрукоча.
А потым, як вядзьмарка, у пакоі
Крычыць, галосіць, пыхкае, рагоча.

Калючаю мужчынскаю шчакою
Балючыя адбіткі пакідае.
Не ведаю ні сну я, ні спакою.
Што за істота дзіўная такая?



## Як пчала...

Што адчувае імгненнем апошнім пчала?
Наканаванасць сваю?
Асалоду ад здзекаў?
Можа, хвілінам апошнім сама бедалага не рада?
Ведаць мы тое з табою ніколі не зможам.
Толькі калі б той, хто яд свой у нас выпускае
І пакідае пякучае джала у целе,
Горка й жалобна закончваў жыццё, як пчала,
Можа б, нарэшце, таго не рабіў аніколі.



## Скрыпач

Ты той, каго няма даўно,
Гадоў са сто, а можа й болей.
Кафэ «Марозіва». Кіно.
Канец семестра.
Лета!
Воля!

Абутак новы. Мазалі.
Я басаножу па асфальце,
А ён гарачай ззяе смальтай,
І ногі просяцца зямлі.

Няма яшчэ ніякіх страт.
Я па-над Віцебскам, як Бэла,
Лунала, бегала, ляцела,
Не азіралася назад.

І ты са скрыпкай побач плыў
Такім анёлам кучаравым,
Не звыкшыся да крыку: «Брава!»
Ніхто яшчэ нікім не быў.

Яшчэ не счэзлі праз гады
І душы адкрывалі свету.
Калі б я ведала тады,
Што восень будзе пасля лета,

Што так квітнець не зможа сад,
А ён і быў найбольшым скарбам, —
Усё зламае час, як кат,
З пагляду змые шчасця фарбы.



Або ледзь чутна, пакрысе
Старой масніцай злосна рыпне,
Ды ўсё ж праз горад панясе
Юнак і туфлі мне, і скрыпку.

А калі сціснуць халады
І часу застанецца мала,
Я ўбачу скрыпача сляды
На дахах віцебскіх Шагала.



* * *

Адбіткі вобразаў жыцця майго
Такога марафонскага
Пад ветрам і нахабным
І сцюдзёным
Аблокамі сплываюць мімаволі
Міма мяне самой
У вечнасць
Колькі ж трэба моцы
Каб трымаць цяжар ёй мой
Бясконца



## Венскія фантазіі

*Прысвячэнне Моцарту і не толькі*

Тут Моцарт жыў.
І тут цяпер жыве.
Ён розныя сумнеўныя лібрэта
Перакладае ў арыі свае,
Каб скрыпак салаўіных флажалеты,
І талент, і каханне, і тугу —
Усё злучыць адзінай партытурай,

Каб, як заўжды, у спешцы, на бягу
Ды лёгка зладзіць новыя купюры
І назнарок трымаць маю далонь,
Калі аркестр на фортэ грае tutti,
Каб разгарэцца мог яшчэ агонь
І грэць яго праступджаныя грудзі,

Каб дотык вуснаў мройны, нібы сон,
Сярод чужынцаў стаўся абярэгам,
Каб чорны плашч,
І чорны парасон,
І вечаровых чаравічак рэха...

І ўжо не ведаю, ці ты,
Ці Моцарт дырыжыруе аркестрам?
Дрыжыць паветра з гэтай мілаты,
І я хаваю слёзы ад маэстра.

І венскі торт,
І чырванню віно —
Плывуць у рытмах венскай брукаванкі,
І наш шпацыр па Вене давідно,
І вочы хітраватае цыганкі,
Што пад дажджом на мосціку стаяла,

І што шаптала казкі-абяцанкі,
І грошай узяла што з нас замала.

Была яна праўдзіваю цыганкай,
Не ўзгадваю яе ніводным кпінам —
Любіў мяне раней ты, як каханку,
Цяпер — як улюбёную Паміну.



* * *

Свечка.
Агонь.
Пажар.
Недзе Шапэн рыдае.
Душы.
Абдымкі.
Жар.
Веру.
Хачу.
Жадаю.
Высі.
Касцёл.
Арган.
Я ўжо амаль святая.
Мроі.
Палын.
Дурман.
Богу цябе вяртаю.



## Здрады

Я здраджваю табе з іншымі.
Іх шмат у мяне. Вось так.
Адзін — Фрэдэрык, музы́ка.
Другі — мастак.
Трэці — паэт,
Няхай будзе Язэп.
Стой, забылася,
Яшчэ адзін ёсць — Пастарнак.

Я іх партрэтамі сцены свае
Увешваю, як зімой ялінку.
А твой схавала.
Не памятаю ўжо дзе.
Запіхнула ў нейкую скрынку.

О, толькі б ты ведаў,
Што за кампанія ў мяне крутая!
Я з кожным з іх абедаю,
А потым п’ю каву
Ці цешуся любімым чаем.

Адзін мазуркі грае мне на раялі,
Другія два — чытаюць вершы.
А мастак, уяўляеш? Ён спрыяе,
Каб я непачатую паэму завершыла

І пела яму дыфірамбы.
Ці панегірык пісала, ці жартавала,
Не зважаючы на харэі і ямбы.
Але ў астатнім ён падобны да ідэала.

Адным словам,
Жыццё саладзей халвы.
Калі не думаю ўпотай —
Мне б выкінуць цяпер цябе з галавы.
А з сэрца выкіну потым.



## Твой кот

Ну, як твой кот?
Ці лашчыць ён цябе
Ад вечара да самага да рання?
Ці расказаў яму ты пра мяне,
Пра наша недарэчнае спатканне?

Ты гаварыў —
Вядомай ён пароды
І нейкай невымоўнае красы.
Не ведаю, ці з той жа я нагоды
Пафарбавала сёння валасы? :)



* * *

Зранку вакол каленяў тваіх
Лашчуся коткай рахманай.
Не ведаю, ці хацеў, але ж зманіў
Ў палон свой доўгачаканы.

Вокам зялёным сваім
Міргаю, як святлафорам,
Што сабе думае толькі ДАІ,
Дзе ж той агонь чырвоны?

Лапкаю драпну цябе па спіне,
Змружу пяшчотаю вочы,
Ну раскажы, ці доўга мяне
Адмольваў ты у ночы?



## Нотны сшытак
## Ганны Магдалены Бах

Схаваўшыся ў цёплым пакоі ад восеньскай
скрухі,
Над нотнай паперай схіляецца Бах задуменна —
Малюе нашчадкам свае найскладаныя фугі,
І пыл з клавесіна сцірае яго Магдалена.

Раз-пораз кране яна пальцамі клавішаў цноту,
Не хоча ад мужа адстаць нізашто у спагадзе,
З ахвотай запомніла Ганна даўжыні і ноты,
Між справаў то раз, а то й два паіграць яна сядзе.

Ад фуг адпачыўшы, накідае кантар з імпэтам
Няхітрыя творы, на першы пагляд, для клавіра:
«Валынку», прэлюдыю, арыю і менуэты
(Іх болей за ўсё у тым сшытку, казаць калі
шчыра).

І сшытачак той Магдалене у дзень нараджэння,
Аздоблены вензелем і перавязаны стужкай,
З усім хваляваннем і непрыхаваным
трымценнем,
Імшу адслужыўшы,
На ранку паважна уручыць.

І мірна сапці будуць хлопчыкі ў сонных
калысках.
За вокнамі дзесьці раздумае плакаць залева.
І шчасце убачыцца Баху і блізкім, іісным,
Калі будзе граць менуэты яго каралева.



## Незнаёмы мастак

Мне складае лісты незнаёмы мастак,
Дасылае на «мэйл» ці на «ком».
І не тое, каб зналіся.
Ну, проста так
Недзе бачыліся з мастаком.

Выглядаў ён паважна: вусы, барада,
Дабрыня у блакітных вачах.
У яго нетаропкая вельмі хада,
І, як я, ён не спіць па начах.

Пад сафітам палітраю зноў нездарма
Размалёўвае кужаль штодзень.
І каго на карцінах тых толькі няма!
Як сябруюць святло там і цень!

У майстэрні далёкай ён фарбы кладзе
На сувой з беларускага льну.
Лёгкі пэндзаль абмые у чыстай вадзе
І малюе, малюе вясну.

Ён на Рэмбранта, можа, падобны крыху
Валасамі.
Ці пэўным мазком.
Толькі Саскіяй стаць я яму не змагу,
Калі Музаю толькі на «ком».

Будзе ён маляваць ад відна да відна
Памяранцам вясновы прамень.
Папляткарым уноч мы за кубкам віна,
Ля альтанкі распалім агмень.

Утрапёным уночку зіркастым агнём
Неспадзеў я сагрэю душу.
Ну а сёння, дасць Бог, мо уранку ці днём
Мастаку я таму напішу.



## Вечарніцы

*Кудраўцавай В. С.*

Калі дзень ад стомы ніцма
Мусіць крыху адпачыць,
Ты прыходзь на вечарніцы,
Будзем мы яго лячыць.

Задаволена і мройна
Дзень той свечкай затрымціць.
І вялічны і спакойны
Нехта з высяў паглядзіць.

Гэты погляд палымяны
Так патрэбны нам тады.
Лёсу міласць. Фартэп'яна.
Вечар ціхі. Я і ты.



## Вераснёўскі вечар

Верасень згасае непрыкметна,
Дажывае свой апошні дзень.
Восені пахмурныя прыкметы
Кідаюць на нашы твары цень.

Ты кранаеш ціха мае плечы,
Моўчкі наліваеш мне віно.
Гэта вечаровая сустрэча
Быццам каляровае кіно.

Ведаю, сказаць аб нечым маеш.
Лепей будзем піць з табой віно.
Слоў не трэба.
Веру, што кахаеш.
І кахаеш, ведаю, даўно.

Ноч увосень надыходзіць рана,
Хвіля развітання не міне.
Добра ўсё ж, што так неспадзявана
Ты прыйшоў у госці да мяне.



## Калі я гляджу у бяздонне вачэй тваіх…

Калі я гляджу у бяздонне вачэй тваіх
Бачу там шчасце
Што ззяе адценнямі летняй празрыстай вясёлкі
і смеху
Смех пэндзалем гнуткім пазмешваў яскравыя
фарбы
Вачэй нашых сіне-зялёных і цёмных і светлых
І сталася выспела колерам дальняга мора яно
І цяпер цеплынёю
Кладзецца пад нашыя
Босыя-босыя
Лёгкія ногі

Навобмацак шчасце крануць я магу
Бо жывое
І тэмпература ў яго чалавечага цела
Умее смяяцца яно
Сальфеджыраваць сцішаным рэхам
І песціць тваімі рукамі маіх валасоў пераліўы

А потым з палёгкаю
Быццам русалку якую
На хвалі пакласці і доўга катаць на іх спінах
Шырокіх і цёплых
Нібы на дэльфінах

Бурштынам уноч аздабляць зарападавым шыю
І вушы
І пальцы маіх тонкіх рук у былым піяністкі
няблагай

А косы
Што сталіся доўгаю-доўгаю вечнасцю ў небе
над намі
Марскою травой спавіваць і выбельваць пенай
Аднойчы з якой нарадзілася тут неўпрыкмет
Афрадыта
Сышоўшы на бераг чароўнай багіняй зялёнага
Кіпра

І я
Як Анфея
Акрэя
Аленцыя
Філамедэя
Блукаю-блукаю з канца у канец па аркадах
вясёлкавых замкаў
Вачэй тваіх ціхіх і сумных бы ціша аблокаў
І поклічам іх і высокім і шчасным
Здаецца мне
Што
Разумею ужо
Немату і бясконцасць



* * *

Мае слязінкі хай застынуць
Сівінкамі на чорных валасах.
Анёлы ціхія нябачна іх пакінуць
Табе, як невымоўны мой пасаг.

Хачу, жыццё тваё каб доўжылася вечна,
Каб не сустрэў ты здраду і ману,
Каб час вірлівы, строгі, невылечны
Цябе нядоляй чорнай абмінуў.

Каб кожнай серабрынкаю сваёю
Успомніў перад сконам ты мяне,
Была і я калісьці маладою
І марыла аб шчасці і вясне.



## Увечары

Прыйшла дамоў.
І зноўку у самоту правалюся,
Бы ў пустую цемень.
Перакладу сутонне я на ноты
І занатую шэрыя адценні.

Дзвярыма моцна бразнуць дзесьці зверху.
Шчанюк абудзіць сцены гучным брэхам.
Суседзяў сварка з пятага паверха
У сэрцы адзавецца тужным рэхам.



* * *

Я дыханнем сваім аднойчы
Тваіх вуснаў крануцца мару.
Пасярод звар’яцелай ночы
На ускрайку бязмежнай хмары

Я вільготнасць твайго пагляду
Вып’ю ўсю да апошняй кроплі,
Пад чароўнай начы прыглядам
Я мігцець буду свечкай крохкай.

Даставаць будуць пальцы гукі
З незнаёмых вяршыняў свету.
У сімфоніі мае рукі
Уладкуюць сугуччы гэтыя.

І калі мой анёл тужліва
Узмахне крыламі уверсе,
Мне не страшна ужо, мажліва,
Мне не жудасна і памерці.



* * *

Я магу у табе растварыцца,
Зліцца з вірнай, гарачай крывёю,
Чысцінёй незямной наталіцца,
Як бальзамам, гаіцца табою.

Толькі доўжыцца смага бясконца,
На душы то трывожна, то пуста.
Застаецца запаленым сонцам
Цалаваць твае спелыя вусны.



* * *

Ужо душа кладзецца трафарэтам
На нечую падобную душу.
Як мне з табою лёгка быць паэтам!
Як я з табой вялікасна грашу!

З атрутных жменяў прагна п'ю спакусу,
Смакчу пчалой гаркавых вуснаў мёд,
Якая апасля свайго укусу
Не зможа здзейсніць другасны узлёт.

Гарадь агнём саспелыя жаданні,
Збег у нябыт зняверавы спакой.
І ноч усю — да самага світання —
Мая падушка дыхае табой.



* * *

Я хачу развітацца навекі
І навекі забыцца цябе.
Ледзь дрыжаць твае сонныя вейкі,
Нешта сніцца благое табе.

Нешта сніцца благое, дарэчы.
Мо бяссонне ўтрапёных начэй?
Мо расстанні ці ўсё ж такі стрэчы
Нашых чорна-зялёных вачэй?

Кроплі стынуць сярэбраным шкельцам
На вясновых зімой капяжах,
Пакуль іх зледзянелыя цельцы
Не растопіць у лютым імжа.

Не згубіць каб мне дзён незлічоных,
Не спазнаць каб згрызоту-бяду
І застацца навек нарачонай,
Без дазволу твайго я сыду.



## Даруй

Даруй, лячу што на спатканне
Я стрымгалоў не да цябе,
Суцішаным і стылым раннем
Табой не радую сябе.

І што замерзлыя далоні
Не саграваеш мне цяплом,
Не ты кранаеш моўчкі скроні,
Не поўніш радасцю мой дом.

Даруй, што любасць ціхай ласкі
Больш не узрадуе дваіх,
Што дзіўнай той каляднай казкі
Ужо не бачу ў снах сваіх.

Даруй, што не ратуеш болей
Ад адзіноты нематы,
Мая душа — цяпер на волі,
І з ёй ужо — не ты.
Не ты.



## Ціша

Там без цябе самотна,
Дзе цішыня начуе.
Колерамі гаркоты
Цішу малюю тую.

Чвэрцю ці палавінай
Доўжыць яе я буду,
Рэхам гучаць адзіным
У прадчуванні цуду.

Ноч адыходзіць зданню,
Крокі, як ноты, піша.
Спадчынай на світанні
Зноў пакідае цішу.



* * *

Цябе вельмі замнога.
І вусны, і вочы
У кроках апошніх згарэлага мая.
Да Магутнага мушу звяртацца я Бога,
Ён аднекуль з бясконцасці моўчкі за мной
назірае:
«Не трэба адной мне так многа...»

Цябе вельмі замнога.
У дрэвах, у птушках,
У сённяшнім дробным дажджу назалелым,
У лістку, што гаркавай пяшчотай злятае.
Толькі ў сонцы апаленым і нечакана збалелым,
Напэўна, цябе я не маю.

Цябе вельмі замнога.
У ранку здранцвелым,
Душу што вятрыскам наскрозь працінае
І шалёнаю моцаю круціць яшчэ піруэт.
Ты ляціш?
Адлятай.
Цябе вырай маўклівы чакае.
Мне пакінь толькі восеньскі свой сілуэт.



## Дыптых пра дзень і ноч

### *Дзень*

І змрочны дзень,
Які такім быць не павінны летам,
Ідзе-брыдзе
За звыклым за жыццё сюжэтам.
А ён чакаў.
І ў сэрцы выспяляў надзею.
Стаіць чарга
Больш за чаканнем, чым самой падзеяй.

### *Ноч*

Я так люблю ноч.
Яна цешыць надзею,
Што заўтра адбудзецца шчаснае штосьці
І месяц-дзівак завітае на госці.
Пра зоркі свае, як заўжды, завядзе ён.
І я ад таго пакрысе маладзею.



* * *

Сублімацыйныя вершы
Шпарка дыктуе аловак.
Ён і жыццё мае вершыць,
Ён і падказвае словы.

Ён суцяшае уночы
Сэрца нямога трымценне,
Мройным паглядам у вочы
Моўчкі спыняе імгненне.

Ён не пужаецца жахаў
Раптам навіслае поўні.
Водарам леташніх пахаў
Хутка пакой гэты поўніць.



## Зоры

Калі вечар запальвае зоры,
Каб уночы мне з вышы свяціць,
Нехта велічны з лёгкім дакорам
На мяне невымоўна глядзіць.

Галаву апускаю з пакорай,
Ды вышыняў мне тых не стае.
Бо здаецца, што зоры — не зоры,
А узнёслыя вочы твае.



## Ноччу, слухаючы блюз

Якая ў гэтай музыцы туга,
Як быццам жураўліны клін увосень
Ірве аблокаў спуджаную просінь,
І вочы засціць шэрая смуга.

Напомніць неспадзеўкі мне яна
Пра тое утрапёнае каханне,
Пра нашае бяссонне аж да рання,
Якое не палохала зіма.

Я тыя гукі пальцамі крану,
Нібы сябе дыханнем падсілкую.
Ды толькі б ведаць, што мяне *адную*
Ты зваў тады у шчасную вясну.



## Сукенкі

Я хаваю сукенкі адметныя ў шафу
І пужліва на чорны іх дзень берагу.
А той дзень не ідзе.
І вісяць апранахі
І глядзяць, як у джынсах штодзень я бягу.

Іх пагляд прытупіўся у млосным чаканні,
Ні імпэту былога, ні лёту крыла.
Рукавы апускаюць пакрыўджана ўранні,
Ды і мода на іх нечакана прайшла.



## Быліца

*Байка на тэму*

Палюбіў хваінку вольны клён,
Што стаяла моўчкі пры дарозе,
Што у духату і на марозе
Зелянела весела здавён.

Закахаўся ён у тонкі стан,
Вочы, зіхатлівыя на сонцы.
Любаваўся імі ён бясконца,
Неспадзеўкі шэпт пачуў:
«Блазан...»

Хто шаптаў — найлепшы сябар дуб,
З ім дзяліў і радасць ён, і гора,
І не тое каб сказаць — пакора,
Ды запал у клёна папрытух.

Дуб казаў:
«Глядзі, яе галінкі
Будуць цяжка раніць твае вочы,
Можа, ты сляпым застацца хочаш?
Забывайся гэтую хваінку!»

Ды укленчыў закаханы клён:
«Божа любы!
Выручы адказам,
Я ж не зведаў любасці ні разу,
Змілуйся, не дасылай праклён!»

Бог маўчаў
І быццам са спагадай
Пазіраў з нябёсаў на яго.
Толькі вось сяброўскую параду
Клён прыняў няведама чаго.



...І прайшло зашмат з той даўніны.
Не спазнаўшы радасці і ласкі,
Пад сяброўскаю нібыта маскай
Рагаталі вусны сатаны.



# Варшаўскія вершы

## *Кафэ*

За столікам варшаўскага кафэ
У сцішанай і невялічкай зале
Сядзелі Вы у модным галіфэ
І раптам: «Пані пекная», — сказалі.

Я словы тыя цяжка разумела,
Дый палічыла іх тады маною,
Калі на столік сумна і нясмела
Паклалі ружу Вы перада мною.

## *Жалязова Воля*

Дзень пачаўся няспешнай нядзельнай імшою.
Разляцеліся ліпеньскім рэхам званы.
Пакрысе ад Варшавы пад хмурнай імжою
Кіламетры адлічваем зраніцы мы.

Дзе буяюць алеі высокіх каштанаў,
Дзе карункавы мосцік над рэчкай вісіць,
Там спрадвеку сумуе душа фартэп’яна,
Там Шапэн незабыўныя сны свае сніць.

Ён цяпер пастаянна жыве ў гэтым месцы,
У даму невялічкім, абвітым плюшчом.
Дождж мацнеў і мацнеў у варшаўскім прадмесці.
Ты ж мяне ратаваў сваім шэрым плашчом.

## *Кава-1*

Па кухні сумнай, цішаю спавітай,
Прайшлася ноч бязгучным дэфіле.
Той кубак кавы, крышку недапітай,
Стаяць застаўся моўчкі на стале.

Тваёй рукой фіранкі тут закрыты.
Адшморгну заўтра, можа, іх, але...
Той кубак кавы, крышку недапітай,
Няхай стаіць таемна на стале.

## *Кава-2*

Ты нават посуд вымыў з асалодай,
Каб не пісала болей я пра каву.
І з нейкай невымоўнай ціхай цнотай
Глядзіць той посуд моўчкі і гаркава.

Прапах табой халат мой і бялізна.
Лунае у пакоі водар кавы.
Цягнік грукоча коламі вялізны,
Імчыць цябе ў шумлівую Варшаву.



* * *

Яе стане прыход нечаканы.
Адвячоркам аднойчы уздых
Будзе цешыць пякельныя раны
Назбіраўшыхся за гады.

І рукою сваёй запалёна
Абарвеш ты сукенку з пляча,
Захістаецца неба шалёна
У тваіх у прыгожых вачах.

Бы плюшчом, напрадвесні распусным,
Яна стан твой сабой абаўе.
Павысмоктвае з чырвані вуснаў
Налітоўкі-нектары твае.

І спатоленыя табою,
Як вадою вясновы абсяг,
Расквітнеюць пупышкі вярбою
На яе мармуровых грудзях.



## Уранні

Прачынаюся лёгка ад вуснаў тваіх,
Яны будзяць пяшчотным крананнем.
І смакую гаючае зелле я з іх
Гэтым сонным кастрычніцкім раннем.

Называеш мяне ты няўцямным дзяўчом.
Ды і праўда, я розум губляю,
Калі ціха цалуеш з радзімкай плячо,
Што у жмуркі з табою гуляе.

Неўпрыкмет слізганеш пад прасціну рукой,
Лёгкім шоўкам прыляжаш на грудзі.
Я не ведаю, тое было ўжо са мной,
А ці можа яшчэ толькі будзе?



* * *

Адмовіцца ад прывідных дароў,
Пазбавіцца размоваў і сустрэчаў,
Забыцца пра знаёмых і сяброў,
Каб быць з табою сёння ў гэты вечар.

Напятым ветрам я лячу дамоў,
Каб наталіцца колішняй пяшчотай,
Мне так патрэбна сёння зноў і зноў
Душы тваёй аголеная цнота.

А ноч паўзе змяёю па спіне
І поўняй усміхаецца распуснай.
Ты скажаш ціха:
«Ночка праміне» —
Цалуючы усмешкай мае вусны.



## Птушка

Ты сёння сказаў, што я птушка.
Не удакладніў — якая?
Звычайная зелянушка?
Чаротаўка? Чайка марская?

Мо ластаўка ўсё-ткі ласкавая,
Шчабеча што табе ў вуха?
Ці ўсё ж шылахвостка жвавая,
Трысцёвая весялуха?

А ведаеш, мне здаецца,
Што я сініца замерзлая,
У шыбу крыламі што б’ецца
І падае ніц памерлая.

Я птушка!
Я з вечнасцю злучніца
Душы — адзінокай вандроўніцы.
Мы з ёй дзве сястры неразлучныя,
Падобныя.
Толькі няроўніцы.

Бо вечнасць бясконцасцю поўніцца,
Што ўрэшце прыводзіць да Бога.
А я ўсё кружляю пад поўняю
І пільным наглядам Сварога.



* * *

Ты праводзіш рукой па маіх валасах.
Ты хочаш на смак паспытаць іх зблытаны водар.
У адзін адному насустрач плывучых насах
Ёсць адмысловы сакрал надыходзячага новага
года.

Ты будуеш няўзнак нашыя гарады.
Ты недасяжныя ўзводзіш дамы і палацы.
Будзем жыць у дамах і палацах тых я і ты
І стагоддзямі бясконцымі, непарушнымі
абдымацца.

Сінія вены сухіх далоняў тваіх
Застаюцца памяццю на маёй галаве і у
І цякуць даўгавечнымі рэкамі праз нас дваіх —
Вось таму неўпапад неўтаймоўнымі думкамі я
жыву.

Мы з табой, як стрэлкі зблытаныя гадзіннікаў,
Цяпер рэдка занадта паказваем агульны час.
Але сядзіш перада мною ты амаль што гадзінамі
І рукою знаёмай праводзіш па рыжых маіх
валасах.



## Напрадвесні

Я упарта гляджуся у поўню, нібы у люстэрка.
А з нябёсаў ляцяць, і ляцяць,
І маўчаць твае зоркі.
На правіслай палічцы старой, як жыццё,
этажэркі
Томік вершаў
Аднойчы
Табою
Забытага
Лоркі.

Што мне Лорка?
І што мне яго арабескі і песні?
Я вярэдзіць душу не хачу.
І спакою твайго не парушу.
Ды і час набліжаецца радасны ўжо напрадвесні,
Без вады распускаюцца ў шклянцы
Засохлыя
Ружы.



## Гарадзея

Ты недзе там за Менскам, пад Нясвіжам,
Адлік вядзеш хвілінам і падзеям.
А я нябачным, непрыступным віжам
Лячу ўслед табе праз Гарадзею.

Цудоўную краіну Гарадзею,
Што сніць свае цукровыя ласункі,
Якая, як і ты, дае надзею
На мройныя учынкі і стасункі.

Яна, нібыта ты, кавалак шчасця,
Растоплены на вуснах цеплынёю,
Салодкая, як першае прычасце
І як усё, што звязана з табою.



## Тэлефон-аўтамат

Нашы дні немагчыма бягуць у сусвет.
Большасць памяць губляе. А штосьці трымае.
Ну, напрыклад, пагляд твой у квецені мая.
Ці пад безданню неба вясёлкавы свет.

Ці акорды пад пальцамі твораў Шапэна.
Ля стаўка мой эцюднік. Лілеяў вянок.
І пакінуты Віцебск з партрэтамі Пэна.
І адзіны паход наш з табой у кіно.

У нас розныя крыўды. І розныя праўды.
Нават розныя дзеці. І розны прысуд.
Ці ўсё ходзіць «дзявятка» на вуліцу Праўды?
Ці даўно ўжо знялі той звыклы маршрут?

Дзве капейкі рукой саграваю ў кішэні,
Каб зглытнуў іх імгненнем стары аўтамат.
Для цябе я была непрыкметнай мішэнню,
Правінцыйнай дзяўчынкай і крокам назад.

Зледзянелыя шкельцы абшарпанай будкі
Мне здаваліся раем асклелай зімой.
О мая маладосць! Ні праклёны, ні чуткі
Не хвалююць цябе і хвілінай адной.

Тэлеграф правадамі сціскае абдымкам
Так, што ногі слабеюць і голас дрыжыць.
Розум засціць туману зімовая дымка.
І зашмат яшчэ мамам адмерана жыць.

І зашмат яшчэ будзе — і зімаў, і вёснаў,
Расставанняў, вяртанняў, памкненняў, віроў.
Ткуць нябачна шляхі нам нябесныя кросны,
Астывае за часам гарачая кроў.

Мы з табой размаўляем на розныя тэмы,
Аўтамат — маё шчасце. А звонку чарга.
Б’е у дзверы нагой маладзён з хрызантэмай,
Нібы замест нагі у яго качарга.

Ты ж жартуеш, канечне. На мяккай канапе
Разваліўшыся вольна і з кавай у руцэ,
Затрымаеш пагляд на разгорнутай мапе
І жартоўнае штосьці прамовіш яшчэ.

Што пакуты дзяўчынкі адкрытай і шчырай?
Азначалі ці шмат яны ў даўні той час?
А цяпер ужо й мамы зляцелі у вырай,
Пазіраючы звышай адкульсьці на нас.

А цяпер скамянела душы маёй рэшта,
Не выносіць яна халадэчу зімы.
Твой мабільны даверліва шэпча мне нешта.
Аўтаматаў няма. І ўжо іншыя мы.



## Залева

Ні адзіны нерв сумлення
Не злякне, не здрыганецца.
Бачна, з нейкага камення
Высякалі тваё сэрца.

Ці то майстар быў нязгрэба
Абыходзіцца з зубаткай,
Што вайстрыць скарпелі трэба,
Не дацяміў скульптар-татка.

Ды анёл твой тым не вінны.
Ён на варце днём і ноччу,
Толькі за тваe правіны
Апускае долу вочы.

Ён імкнецца ўверх да столі —
Той анёлак палымяны.
Штосьці шэпча з жырандолі,
Ты ж не чуеш, нібы п’яны.

І трапеча штосьці злева
У грудзях анёла, б’ецца.
Там за вокнамі залева
Не дае яму сагрэцца.



* * *

Я малявала сваё каханне
Шмат доўгіх дзён і начэй да рання.
Я і не ела, і спала мала,
Усё малявала і малявала.

Ды толькі выйшла такая справа —
Там плямы злева і цені справа.
Святла у творы мне тым бракуе,
Заўжды я фарбу бяру не тую.



* * *

Калі пайду, дзвярэй не зачыняй,
Бо, можа стацца, будзеш мець патрэбу.
А можа, без мяне і рай — не рай,
Без сонейка самотна нават небу.

Яшчэ ты расчыні сваё акно,
Я птушкай на яго спачыць прысяду.
У садзе тваім белым да відно
Спяваць я табе буду серэнады.

Калі пайду, дзвярэй не зачыняй,
Душу не зачыняй сваю — не трэба,
Бывае, што агортвае адчай,
Дык раздзялю з табой крышанак хлеба.

Узнёсласць маіх думак зберажы,
Манашкай да цябе прасіцца стану.
Твае крыжы — даўно мае крыжы.
Маліцца ж за цябе не перастану.

Як дзве планіды на адным шляху,
Мы сутыкнуліся імклівым раннем.
Агнём зямля палае ад граху,
Каб душы уваскрэслі у каханні.



* * *

«Калі мяне не стане на зямлі,
Прашу вас, не сумуйце над магілай.
Няхай вы не зрабілі, што маглі,
Няхай ламалі часта мае крылы.

Дарую вам ману, суровасць, злосць,
Ганебнасць, і прыдзірлівасць, і жорсткасць,
А мне маю даруйце маладосць,
І шчырасць, і нястрыманую порсткасць.

Асуджаная Богам на любоў,
А можа, і праклята з нейкай мэтай,
Адданая была я для сяброў,
Адкрытая была сярод паэтаў».

...Як часта разважаю я аб смерці,
А разабрацца — можа, й не жыла.
Бо, ведаеш, таму хачу памерці —
Забыцца пра цябе каб я магла.

І ўсё ж такі на ціхім небасхіле
Забыць цябе хачу, мабыць, дарма:
Калі *тут* уратуюся магілай,
То *там* такой магчымасці няма.



# Ружы

ён хутка ляціць пасля працы у краму
набыць каб там ружу чырвоных адценняў
дзе так прадавачка падобна на маму
усмешкай сваёю і сціплым адзеннем

затым мітуслівасць вакзалаў шумлівых
хавае яго ад знаёмых і ружу
падалей-падалей ад воч сумятлівых
вязуць цягнікі яго ў спёку і сцюжу

нібыта усё для аднога імгнення
рукі каб кранулася колкая ружа
нібыта каб ранку нямое трымценне
будзіла няветла нічыйнага мужа

яна ж тую ружу гаркотна засушыць
каб водар застаўся надоўга спаткання
чым больш яна сушыць пакутныя ружы
тым долей квітнее у шклянцы каханне



## Два вершы пра прыгажосць

***1***

Ты сцвярджаеш, што любіш мяне
З сінечаю пад вачыма,
Са скураю не будзем гаварыць якой.
З пужлівасцю,
Панікай,
Страхам,
Занудствам
І цэлюлітам.

Ты сцвярджаеш,
Што
Бачыш маю душу,
Якая крыніцай бруіцца
Ці свеціцца вечным агнём.

Ды ведаю я,
Што
Любіш мяне такую,
Што й дваццаць гадоў таму, —
Прыгожую,
Вясёлую,
Маладую.

Адным словам,
Далёкую
*ТУЮ...*

*2*

Сціраюцца фарбы. І рысы
Крыху забываецца памяць.
А квецень жаўтлявых нарцысаў
Змяняе вішнёвая намець.

Ды намець злятае пад ветрам
Такім, як у гэтую весну.
І стыне чаромхай паветра,
І шпак не пяе пад навесам.

Так лёгка і гэтак імгненна
Гартаюць надкрыллем гадзіны,
Штодзённыя існасці змены
Не бачыць імклівы гадзіннік.

Прырода ж — жаночага роду,
Вядомаю мерае меркай.
Як добра усё ж, што прырода
Не мае шклянога люстэрка.



* * *

Ты малюеш мяне.
Мае вусны малюеш і вочы
І кладзеш моўчкі фарбы на кужаль з бялюткага льну.
Усміхаюцца вочы твае гэтай восеньскай ноччу
І пяшчотай сваёй незямной абдымаюць мяне.

Я не ведаю, не,
Дзе знаходзіш такія адценні,
Што умееш аздобіць чысцюткай, празрыстай расой?
Ты малюеш мяне ў каралеўскім шыкоўным адзенні,
Я такія уборы не бачыла нават у сне.

Гэты час праміне,
І пакіне адметныя рысы,
І на твар мой адбітак жыцця і трывог пакладзе.
Застанецца партрэт у тваіх чарадзейных абрысах,
На якім прыгажуняй навечна зрабіў ты мяне.



* * *

У нас з табой усё наадварот.
Даўно ужо цябе не спакушаю.
Ці то ад болю, а ці то з адчаю
Не веру ў твой магічны прыварот.

Ды гнуткаю смарагдавай лазой,
Пазычанай табой у Райскім садзе,
З пяшчотай і адкрытасцю ў паглядзе
Мяне ты абвіваеш, быццам Ной.



* * *

Я не буду больш складаць табе вершаў.
Я прыдумала новую гульню:
Уявіла, што жывем з табой разам.
Я нават посуд памыю,
Што стаіць ужо дні тры.
Хочаш?



* * *

Правады электрычныя зімою гучаць тваім
голасам,
Аксамітавым такім басам.
Людзі ходзяць пад імі і не ведаюць,
Што гэта не правады, а ты.

Яны шмат чаго не ведаюць,
Напрыклад, што ў мароз можна не мерзнуць
І гучна смяяцца, ідучы па ходніку маленькага
горада
У суботу, калі народу на вуліцах зусім амаль
няма.

Яны не ведаюць, што можна трапіць у адное
жытло,
І частавацца духмянаю ежаю,
І піць гарбату маленькімі глыткамі,
І працягваць смяяцца далей без усякай нагоды.

І смех, і глыткі, і вочы, і правады пустога горада
Зліваюцца у адную музычную дзею.
А музыкі той чароўнай ніхто не чуе,
Музыкі, якую мог напісаць, напрыклад, толькі
Моцарт.



## Увогуле

Упіхнуць у джынсы растаўсцеўшае цела,
Абматаць палантынам шыю
Ці зрабіць пластыку.
Яшчэ звярнуцца па дапамогу да стаматолага.
Але не магу зразумець,
Што зрабіць з паглядам, які здзівіць нічым
немагчыма?
І куды дзець раздзёртую,
Параненую душу?
Толькі і радуюць на гэтым свеце
Яшчэ маленькія дзеці,
Але чамусьці іх так шкада.
Так шкада.
Так...



* * *

Я сказала:
— Жаўцее лістота.
Ты прамовіў:
— Ну так, гэта восень.
Ты такі прыгажун на фота.
І такі малады невыносна.

А я думала, доўгае лета
Валадарыць у вас там бясконца
І магічным тчарот-амулетам
Круглы год ззяе велічна сонца.

Аказалася, снежныя мушкі
І у вас танчаць вальсы і скерца.
Што ж ляцяць беларускія птушкі
Грэць да вас свае кволыя сэрцы?



## Вальс пра котку

Я котка, якая гуляе сама па сабе
Па вузкіх сцяжынках птушынага звонкага гаю,
Сакрэты свае давяраю маўклівай журбе
Ды з дрэва высокага моўчкі на вас пазіраю.

У коткі зусім гаспадыні ніякай няма,
Кружляе па даху задумліва пад небасхілам.
Заўжды гаспадыняй заможнай бывала сама,
Калі ж не ставала настрою — мышэй не лавіла.

Ты котку вясёлую сёння пабачыў ізноў,
Няўжо не пазнаў па паходцы бязважкай і гордай?
Вяртаюся, толькі калі я стамлюся, дамоў,
І песні складаю, і ладжу пад іх я акорды.

Калі ж на сцяжынцы я злоснага стрэну ката,
Шчыльней зачыню перад ім я сталёвыя дзверы.
Я волю сваю больш нікому ужо не аддам,
І хітрым катам я цяпер ні за што не паверу.

## Я не хачу паміраць зусім

Я не хачу паміраць зусім.
Застацца б мне, можа, адзіным словам.
Вяртаюся усё ж да высноваў,
Што свет вялікі, а ты — адзін
Супроць яго стаіш і босы, і голы.
І ўжо не істотна — разумны ты ці вясёлы.

Шпіль касцельны таксама адзін
Тарчма па-над горадам невялічкім
Вісіць чырвоным, прыгожым абліччам
У адзіноце правінцыйнай зусім.
Колькі вас такіх, як ён?
Лічы — не пералічыш:
Маленькіх, сярэдніх, вялікіх.

Толькі шпіль званамі аб неба б’е
Кожную раніцу зашмат стагоддзяў.
А ты ледзь чутна у гэтым годзе
Выдыхнеш нейкія словы свае,
Аддаўшы даніну павагі модзе,
А потым падхопішся:
«Годзе!»

Годзе пакутаваць на фігню,
Шукаць удалыя, файныя рыфмы.
Карабель фантазій тваіх напаткаюць рыфы,
І зноў ты будзеш стаяць у раскошы «ню»,
І цела будзе шукаць каларыфер,
Адбіваючы гусінай скурай
Складаныя
Рытмы.

Ты — супроць злосці і крывадушша
Таксама, як касцельны шпіль са званіцаю,

Б’еш у свой звон набатам ці ніцма
На паперці падаеш знясілена.
А змушана
Апрануць
Не самую
Кепскую
Сваю
Спадніцу
І падняцца да тых высокіх,
Нябачных байніцаў.

І слова няўлоўнае адчуць, як сваё,
І пакінуць яго сцерагчы Хронасу,
Каб аднойчы нехта зычным такім голасам
Змог сказаць сабе: «Ну ё-маё!
Нешта у гэтых выразах ёсць.
Дзівачка, аднак.
І гэтыя адвечныя яе фокусы».
(Седзячы над адным з тваіх опусаў.)



## Якога-небудзь лютага

Які пахмурны сёння дзень,
Нібы якая-небудзь восень
Плыве ў птушынай чарадзе
І літасці у неба просіць.

Нібы пральецца злосны дождж.
Ты ж, як заўжды, без парасона.
А ён, як цар, як хан, як дож, —
Вальготны, мажны, п’яны, сонны.

І у пакоі ні душы.
Але, прабачце, сцены — душы.
Яны, як кухлі-спарышы,
Адным хаўрусам непарушны.

Спагаднай літасцю маўчаць
І цішынёю песцяць вушы.
Хоць без надзейнага пляча,
Ды дню насустрач моўчкі рушу.



## Лета

Ды ўсё роўна ж будзе
Некалі
яно — лета,
А наўкола свет — жытлом маім зноўку.
Мне на ранку чэрвеньскім пасаг з кветак
Раскашуе покрывам,

А абноўку
Кіне ў травы
Чыстыя,
Дзе ніц лозы,
Дзе з лілеяў сплецены даўно пацеркі,
Дзе шчыруюць прыгаршчы тваіх росаў,
Дзе здалёк агнём святло ў хаце.

І мяне пад
Птушак
Пошчакі
Захіне яно пухкім полагам.
Ад усёй той людской пошасці,
Ад усіх маіх спудных сполахаў.

Абдымай мяне,
Зацалоўвай,
У лугах у поплаўных мы адны.
Хоць жыцця пройдзена больш паловы ўжо,
Жыць далей з табой мы асуджаны.



## Вербніца

Нельга стаць табе мне блізкаю
Паланянкай неймавернай.
У святле нядзелі вербнай
Шэпча вечар вербнай нізкаю,

Каб і выдыхнуць, і выкрыкнуць:
«Ты душу мне палячы!»
Дзесьці на тваім плячы
Плыць і плыць шалёным выракам.



* * *

Бегчы б сцяжынкай, як па радну,
За далягляд пуцявіны.
Не адпускай мяне сёння адну,
Не разрывай пупавіну.

Памяць адпрэчу, адрыну сваю,
Ды яна добра так помніць —
Нованароджанай як стаю
Перад табой і поўняй.



* * *

Гэтай ліпеньскай ноччу халоднай, бы восень,
Тваім голасам неба гучыць.
То мілуе пяшчотна, то літасці просіць,
То у вочы глядзіць і маўчыць.

Там, на пульхных аблоках, у свеце далёкім,
Свае гімны калісьці даўно
Ты спяваў і спяваў. І збягалі аблокі,
Адплывалі у свет туманом.

Цалаваў ты з радзімкамі плечы і шыі,
Саграваў, абдымаў, мілаваў.
Дакранаўся далонню уяўных вяршыняў,
Толькі ногі тапіла дрыгва.

Сам сябе ты у пекла кідаў, у прадонне,
Думаў, рунаў смакуеш пітво.
Ці напіўся ты? Ці спатоліўся доляй,
Што блішчыць залатою жарствой?

Ты — як вечны араты ці велічны вершнік
У журбе і заўсёднай сяўбе.
Дзесьці там у тваім недапісаным вершы
Я стаю і гляджу на цябе.



* * *

Туліцца пляча твайго,
Слухаць, як дыхае шыя тваёй крывёю.
І там, каля неба дзесьці, па-над зямлёю
Маўчаннем аблокаў
Плыць, плыць.

На дыбачкі ўстаць,
Каб дастаць да вуснаў гарачынёю
І пальцамі моцна трымаць сусвету цноту.
І нейкай такой адной новай няспыннай нотай
Мне побач і зноўку з табою
Быць, быць.



* * *

Восень прыходзіць, як адзінота.
Рукою слізкай рудай сваёю
Збаўляе дрэвы іх дрэўнай цноты
І скуру з мяне здзірае з крывёю.

Голлем цыбатым грукае ў вокны,
Снамі змяінымі будзіць уночы.
Летнезялёныя, ветлыя, мокрыя
Вочы варонамі выдзеўбаць хоча.

Што ёй маё знямелае цела?
Што ёй трывогі мае і пяшчоты?
Восень забрала усё, што хацела,
Мне пакідаючы боль і самоту.



## Несустрэтыя людзі

Мы сумуем пра тых несустрэтых аднойчы
ў жыцці,
Хто сумуе пра нас недзе там ці далёка, ці блізка.
Мы гатовы за імі ляцець, і ісці, і паўзці
У той кут, у той край — ён далёкі ці блізкі.

Мы б вільготныя росы збіралі б на ранку для іх,
Мы б паілі іх смяглыя вусны сунічнай вадою.
Несустрэтыя людзі праходзяць скрозь сэрцы,
скрозь дні
І бягуць. І лятуць. І сусвет забіраюць з сабою.

У паходнях начных мы палілі б агмені свае,
Мы спявалі б, абняўшыся, разам пра лес
і пра горы.
Мы б хацелі, маглі і рабілі б, ды лёс не дае —
Ён адзін нам прарочыць і радасць, і гора.

Мы сумуем пра тых несустрэтых ніколі ў жыцці,
Хто сумуе пра нас недзе там ці далёка, ці блізка.
Мы б гатовы за імі ляцець, і ісці, і паўзці,
Толькі дзе ж ён, той край? Ці далёка, ці блізка?



* * *

Параблыталіся занадта і гады, і даты.
Час ляскоча голаў, нібы на Троіцу град.
Можна з градзін тых скласці даўжынёю
з экватар,
Дарогу з зайздрасці, падманаў і здрад.

«Не вер, не вер!» — крычалі уголас анёлы,
А я верыла ім наноў кожным разам.
Адчувала сябе шчаслівай, была вясёлай,
Не зважаючы на абразы.

Калі супроць выходзіла армія ка́таў,
Падзяляючы тэрыторыю мяжою адной,
Бараніць уставалі мяне мае салдаты —
Ваявалі з цемраччу і маной.

Яны заўсёды стаяць тут, на варце,
Чуючы і нават уздых мой у сне,
Як хлопчык, што сядзеў на апошняй парце,
Той, што кахаў яшчэ ў школе мяне.



* * *

Паўзе праз грудзі твае чорны адчай,
І з табою жыве ён цяпер.
Катуе цела і душу без нажа і мяча,
Нібыта жорсткі, бязлітасны звер.
Праз пакуты тыя зноўку не спіш.
А ён да цябе мкне і мкне.
Не дае супакою твайму даму.
Я заб'ю таго звера.
Пастаў на ім крыж.
Не атрымоўваецца? Чаму?
Паставіў жа ты
Той самы крыж на мне.



## Вясляр

Не бойся за мяне.
Мяне няма там болей.
Ты ж бачыш, я і гук не моўлю ўслых.
Плыві,
За плёскатам чуваць не будзе болю,
Круці, вясляр, магутныя вяслы.

Плыві, плыві,
Ад смагі сохнуць рэкі,
І мора у мяне зусім няма тут.
Мае ж шляхі лязом па вузкіх рэйках,
Няўцямна што пракладваю сама.

Не бойся за мяне.
Ты не дазволіў
Стаць слабай мне.
І тое не аспрэчвай.
Плыві, плыві, вясляр ты мой, на волю
З абдымкаў, пацалункаў і сустрэч.

Няхай майго салодкага цунамі
Нібыта для цябе і не было.
Ды й не было нічога паміж намі.
А нехта наўздагон крычыць: «Было!»



## Не вершы

Гэта не вершы.
Гэта проста каханне становіцца імі, шукаючы
словы,
Каб выліць пяшчоту у новы твой заўтрашні
дзень.
Каб забраць з сабой голас, ад слова да слова
Што крокам няспынным
За мною употай упарта брыдзе.

Не вершы, не вершы.
А проста маўчанне становіцца сцятым.
І крэмзае рэўнасцю сэрца.
І спіць маладзік,
Не здагадваецца, як вінаваты
У тым, што у гэтую хвілю не можа цябе для мяне
Хоць на міг абудзіць.



## Віцебску

*Першым шматлікім ахвярам пандэміі*

Родны Віцебск, дзе кожная сцежка знаёма,
Дзе агменьчыкам кожнае грэе акно,
Дзе бацькі мяне неслі паважна з раддома,
Дзе ўжо й тога раддома няма там даўно.

Дзе ў вышу імкнуцца адвеку саборы,
Дзе жывуць мастакі і лунае скрыпач,
Там цяпер па-над горадам жальбай і горам
Разыходзіцца медных званоў тваіх плач.

У прыгожых людзей тых прыгожыя душы,
Я не ведаю, Божа, у чым іх віна.
Хай яшчэ на зямлі яны служаць і служаць,
Хай удалеч нясе сваю моцу Дзвіна.



## Лісты

*1*

Задыхаюся.
Плёткі.
Здрады.
Крыўдай словы ляцяць у свет.
Толькі сёння я вельмі рада,
Што жывеш недзе там, паэт,

Чые вочы — мае спакусы,
Хоць маўчун дый пісаць мастак.
Я ад праўды не адракуся.
Я такая ж, як ты, дзівак.

*2*

Колькі злосці у свеце гэтым,
Што з'ядае душы паэтаў.
Кленчу моўчкі,
Ды прагну раю.
І згараю,
Згараю,
Згараю...

Калі Ты той пажар не тушыш,
Уратуй Ты нашыя душы.
Адвядзі ліхалецце, Божа,
Акрамя цябе, хто паможа?

*3*

А з дзіцячай душою сваёю
Я і грэшніца,
І святая.

Пазаві яе за сабою,
Дык яна яшчэ палятае.

Дык яна яшчэ столькі гімнаў
Услаўляючых праспявае!
І памірацца палавіны —
І грахоўная,
І святая.

### *4*

Параўноўваў мяне з акіянам,
Толькі, ведаеш, я — не ён.
Ты мяне параўнай з вулканам,
Што буцвее яшчэ здавён,

Што аднойчы неспадзявана
Узнясецца у вышыню, —
І душа твая палымяна
Будзе прагнуць таго агню.

### *5*

Абажаць — гэта шчыра кахаць.
Дык кахаю,
Кахаю,
Кахаю.
Цябе подыхам калыхаць
Кожны дзень я сабе дазваляю.

А у ноч, калі мусіш ты спаць,
Над табою анёлам лятаю.
Абажаць — нібы Бога спазнаць.
Гэта ведаю.
І кахаю.

*6*

Як жа добра мне з Вамі было,
Як ніколі, ні з кім і ні разу.
Ах, якое лілося святло!
Ні папроку ад Вас, ні абразы.

Нават злая старэча-зіма
Не адолела трапным марозам.
Не прыдумала ж тое сама —
Словы Вашы, пачуцці і слёзы.

*7*

Разгубленасць пачуццяў.
Гэта пройдзе.
І уладкуецца нязменлівы спакой.
Той, хто жыццё маё ускаламуціў,
Наўрад ці задаволены сабой.

Узрушанасць,
Пакуты
І трывогу
Зглыне нябыт, як час праб’е ізноў.
Бяжыць жыцця адвечная дарога,
І нехта ў ёй паўторыць нас наноў.

*8*

Мая віна, што я жанчынай
У гэты дзіўны свет прыйшла,
Што на высокай аблачыне
Жыццё сваё я пражыла.

Чыя віна, што твае вочы
Даўно стаміліся без сну,

Што да мяне такі ахвочы?
Вазьму і гэтую віну.

Судзіце, людзі.
І паліце
Мяне за грэх мой на кастры.
А я салоўкай у блакіце
Спяваць вам буду да зары.

***9***

Апошнім днём зыходзіць лета,
Чаўном сплывае па рацэ.
Здалёк памахвае букетам
Лілеяў сумных у руцэ.

А у вадзе начная поўня
Люстэркам срэбраным дрыжыць.
Душу маю тугою поўняць
Твае нябачныя крыжы.

***10***

Адпускаю цябе.
Адпускаю
На зіму.
Аж да самай вясны.
Табе веру,
Ды ўжо не чакаю,
Што наведаеш нашыя сны.

Нас усіх надзяляюць па змозе,
Час прыспеў разбураць нам масты.
Не згубіўшы сябе па дарозе,
Даў літанне і голас мне ты.



## Красавіцкія вершы

### *Вясна праз акно аўтобуса*

Во як сябе вясна ураз пазначыла,
Як толькі тое сталася магчыма!
Вясёлаю усмешкай жоўты маташнік
Шчыруе на пагорках і лагчынах.

І ўздоўж дарогі радасна на ўзлеску
Пасля яшчэ халоднай, золкай ночы
Блакітныя і крохкія пралескі
Расплюшчылі сінеючыя вочы.

Бы шкельцамі, кавалачкамі неба
Зіяюць шчасна каля шэрай пуні.
Там за пагоркам мрояць пахам хлеба
Бясконцыя і велічныя руні.

### *З красавіцкага*

Вясна весела прагульвалася па чырвоным даху,
Кідаючы раз за разам позірк на акно.
Яе не прыкмячалі.
Паверх быў сёмы.
Цалаваліся.

### *Вяртанне*

І птушкам, і самалётам
Ладзіць шляхі адмысловыя неба.
Ёсць там пачатак, адлік, вяртанне.

Я да таго, каб ты ведаў:
Колькі б у аблоках ні лётаў,
Апусцішся ўсё ж на зямлю,

Упадзеш у пульхную глебу,
Каб мудрасцю прарасці ці прарасці хлебам —
Не сёння, дык заўтрашнім раннем.

### ***Удваіх***

сядзелі яны па начох
да самага-самага рання
адзін з іх быў крышку бог
другая — была каханнем

у сэрцы здаўна бярог
ён тое сваё каханне
бо ён — толькі крышку бог
і цалкам — яе дыханне



## Віленскія вершы

*1*

Мне здавалася — жыць не змагу.
Ды змагла.
А ўсё тое, знаходзіцца што унутры у мяне,
Стала камнем,
І шэрым, і цвёрдым.
Яму ўсё адно — вецер, туманы ці холад.
Ляжыць і ляжыць.
І займае зямную прастору.
Не дыша.
А вочы нябачны.
Нібыта памёр.
І нібыта яшчэ ён жывы.

*2*

Мне даспадобы пад дажджом у Вільні
Блукаць па вуліцах, усыпаных бурштынам
Каштанаў віленскіх, саспелых і мядовых.
І верш пісаць.
І ведаць — тут няма цябе.

*3*

Тут горад не падобны на сталіцу.
Тут цішыня пад шэрым парасонам
Сплывае ў Вілію нядзельным сумным звонам
І просіць за цябе мяне маліцца.

***4***

А раптам знікне гэта тайна —
Вачэй і душаў прыцяжэнне?
І імпульс нерва немагчымы,
Што скурай адчуваем нават?

І новых хуткіх думак кола,
Што зразумець яшчэ не можам,
Ідучы босымі нагамі
Пад рыпанне старой масніцы?

А раптам знікне гэта тайна
Кранання душаў без кранання?
Нібы Адам, нібыта Ева
Яшчэ да слыннага выгнання?

І рэхам разарве прастору
Шалёны выбух бліскавіцы —
І новым светам нарадзіцца
Не давядзецца нам ніколі?

Між намі сотні кіламетраў,
Між намі горы і вяршыні.
І як было ўсё застанецца,
І як было ўсё застанецца.

***5***

Дакрануся вачэй тваіх пальцамі кволымі,
Саграваць буду вуснаў змярцвелы лёд,
Каб з марозу твайго — ды ў маё полымя.
Ну, скануй мяне ўсю — навылёт!



## Тыдзень без цябе

### *Дзень першы*

Дзень адзін без цябе.
Ці змагу я пражыць яго?
Ці перажыць?
Буду вечар я моўчкі стаяць ля акна.
Там на вуліцы восень.
Цябе там няма.

Пакуль думкі твае праглынае імклівы цягнік,
Пакуль ён суразмоўца на сёння твой блізкі,
Мне дыктуюць шматкроп'е, пытальнікі, клічнікі
Нізкі вершаў крохкіх маіх.

Цэлы вечар прыціхлы стаю ля акна.
Не сумуй без мяне.
Я сумую сама.
Там на вуліцы восень.
За ёй неўзабаве зіма.

### *Дзень другі*

Ты плёскаешся ў моры,
А я ляжу у ванне.
Ты там штурмуеш горы,
Бы спрытны верхалаз.

А тут у замяшанні
Гаротнае каханне
Не ведае, памкнуцца
Куды на гэты раз.

Ці да цябе, на мора,
Падацца яму з гора?

Ці вабіць тут са мною
Адвечны інтарэс?

Пытанне у кахання.
Ды толькі дзень каторы,
Забыўшыся пра гора,
Яно з такім гуморам
У медыяпрасторы
Нам шле паўсотні скорых,
Імклівых СМС!

## *Дзень трэці*

Аб’ява — усяго тры словы,
На ўсіх білбордах і слупах:
«Мне патрабуешся нанова!»
(Дадам, што вельмі тэрмінова
І так, што проста нейкі жах!)
Прытворна ты нахмурыш бровы,
Хваробы ведаеш працяг.
Мой даўні лекар адмысловы,
Узняць я ўжо даўно гатова
Перад табою белы сцяг!

## *Дзень чацвёрты*

Суцяшаеш сваімі вачыма,
Затуляеш вэлюмам-покрывам,
Ты вядун, і вяшчун, і апокрыф,
І ахоўнік мой немагчымы.

Зазвініць твой голас у слухаўцы.
І пачую: «Ну, як ты маешся?»
Не крычыш, не грыміш, не лаешся,
І я слухаю, слухаю, слухаю.

І жыву я вось так.
Вобразам.
І уяўнага, і зямнога.
Ці жывога цябе — бога
З тэлефонным тваім голасам.

### *Дзень пяты*

Звініць струной яшчэ напружнай цела
Насуперак трывогам і гадам.
Звініць душа, што ўсё жыццё хацела
Той вышыні, якую не аддам

За скарбы ўсе, за ўсе багацці свету,
За золата, смарагды і бурштын,
За зборышчы музыкаў і паэтаў,
За ўсіх каханых некалі мужчын.

Аддам яе за просты дзень без стомы.
За адзінокі і самотны дом,
Дзе ты снуеш і лёгкі, і рухомы
Па-восеньску за сцішаным акном.

Дзе нетаропка саграваеш зоркі,
Далонню песціш грэшную зямлю,
Дзе кожнай хваляй радасна і горка
Твой подых лёгкі слухаць я люблю.

### *Дзень шосты*

Задажджыла.
Бы нядужым лета стала.
І ў вачах яго гаротныя слязінкі заблішчэлі.
І з'явіліся маршчынкі
Вакол вуснаў.
Хоць смяяцца й перастала.

Не да смеху.
Бо рыхтуе восень кпіны,
Адбірае ў лета колішнія фарбы.
Ды і мне цяпер, вясёлай, не да жартаў,
Сумна бачыць счырванелую рабіну.
Не ад жару і ад сціпласці прытворнай
Чырванеюць тыя гронкі пры дарозе.
Хоча восень, каб ізноў я у знямозе
Склала песню у танальнасці мінорнай.

Я складу.
І праспявае яе Дашка,
Не адчуе толькі восеньскай самоты.
Пападзе, як і заўжды, дакладна ў ноты,
З пранікнёнасцю, напэўна, будзе цяжка.

Калі восеньскаю срэбнай павуцінкай
Разляціцца тая песня у Сусвеце,
Мне не будзе страшна — ёсць у гэтым свеце
Той, хто любіць мае сумныя маршчынкі.

## *Дзень сёмы*

Куды б ні вялі кожнадзённыя вірныя сцежкі —
Да роднага вобраза мкнуць яны прагна наноў.
Дык дзякуй табе — і за шчырасць лагоднай
усмешкі,
І лёгкія крокі, і безліч і думак, і слоў.

За пільнасць тваю і адданасць. Яшчэ за ахвяру.
За тое усё, аб чым нават цябе не прашу:
Раптоўныя рукі і ззянне адкрытага твару,
Што лекуе ціха маю паланянку-душу.

За тое, што мусіш ты працы і цяжкай, і шэрай.
За клопат заўсёдны і твой непакой пра мяне.

За мяккасць, падатлівасць, годнасць,
і мужнасць, і веру.
І шчырасць тваю. І нязломнасць аблудзе-мане.

Ты вучыш штодня адкрывацца і верыць нябёсам,
За хмары глядзець і свяціцца пяшчотным
святлом.
Удзячнаю быць неспатольнаму, дзіўнаму лёсу,
Што зноўку кранае празрыстым і шчасным
крылом.



## Рэквіем ненароджаным дзецям

Гарыць зямля ад гуку меднага,
Гарыць у скрусе, у жальбе.
І ўсіх —
Заможнага і беднага —
Той вокліч кліча да сябе.
Чырвонай фарбаю, застылаю
На тварах, кратаем зямлю.
А ён аднекуль з высяў шчыра так
Табе гуліць: «Люблю... люблю...»

### *Малітоўнае*

Дай, Божа Магутны, спакою іх душам,
Знямоглым, пакутным і сумным.
Прасіць Цябе зноўку я мушу і мушу
За матак усіх неразумных.

А вочкі з блакіту маркотліва свецяць,
Як зоркі у цішы да ранку.
Ніколі не ўцешацца гэтыя дзеці
Матулінай калыханкай.

З грудзей малака не пасмокчуць ніколі,
Не зведаюць водару хлеба,
Іх спрытныя бацькавы рукі міжвольна
Не будуць падкідваць у неба.

Не змогуць сказаць немаўляткі аднойчы
Галоўнае самае: «Мама!»
Табе ахвярую, Услаўлены Ойча,
Я водар свайго фіміяму.

Дай, Божа Магутны, спакою іх душам,
Знямоглым, пакутным і сумным —
Прасіць Цябе зноўку я мушу і мушу
За матак усіх неразумных.

## *Dies irae*

І ён настане, Божы суд,
Як толькі час міне.
І Божа вынесе прысуд
Тады табе і мне.

Пакіне толькі дым і пыл
Ад спаленых пакут.
А што рабіць нам перад тым?
Як жыць цяпер нам тут?

Як перад памяццю сваёй
Сябе нам апраўдаць?
Ахвяры слёзнае маёй
Яна не хоча браць.

Дух сплывае уверх павуцінкай
Пакрысе неахвотна з жыцця.
Галаву чорна-шэрай хусцінкай
Абвязаў Усеўладны Суддзя.

Толькі слёзы.
І боль не сціхае.
У чаканні здранцвелым куцця.
Паміж пеклам і сонечным раем
Праплывае нямая ладдзя.

### *Rex tremendae*

Маліся прагна дзень за днём,
Прасі, лягчэй каб стала.
Пячэ агнём, пячэ агнём
Твайго сумлення джала.

Табе ісці туды адной,
Адной ісці да Трона.
Ты бачыш, праведнік —
І той
Стаіць безабаронны.

### *Lacrimosa*

Слязамі ночы мыюцца мае,
І цесна так душы маёй мяцежнай.
А у набат нябачны нехта б’е,
І страшна мне — і праведнай,
І грэшнай.

За вершы сумныя крыўдуюць зноў сябры,
Ды не ратуюць клопатам ад гнёту.
А на шляху маім то кручы, то віры
І цяжкі крыж маўклівай адзіноты.

Укленчу!
Ды у Божанькі спачын.
А боль пячэ, грызе маю душу.
Як за сябе, так і за ўсіх жанчын
Такіх, як я, Цябе — Айцец, прашу!

У спасціжэнні праўды спакваля
Я лепей чым за тысячы? Мільёны?
Спустошана вясновая ралля
І знішчана. Шалёны

Пот і цела, і душу мне мые соллю,
Аднолькавы на смак ён са слязамі
Анёлкаў тых,
Што недзе там, пад столлю
Ці са святымі побач абразамі.

Я ведаю, спагады мне чакаць
Не давядзецца, Міласлівы Божа.
На злосны лёс не стану наракаць.
Ты ім, астатнім, можа, дапаможаш?

Пакінь надзею безлічы жанчын,
Калі зляцяць журботаю у вырай.
У апраўданне яны знойдуць сто прычын,
Але ж памілаваў аднойчы Ты Марыю.

## *Як лілеі...*

Не спраўдзіліся ў велічным сусвеце
Тады мы. У вясёлай грамадзе
Нібыта наша набрынялае суквецце
Засохла яшчэ ў тым зіркастым леце,
Зязюля дзе кувала: «Дзе ты? Дзе?»

Хто вінен тым? Хто б выкінуў на смецце
Душы сасмяглай чорную жуду?
Нібыта нашы ненароджаныя дзеці
Стаяць лілеямі у зрэзаным букеце
І п’юць глыткамі мутную ваду.

## *Там*

Калі тупым жалезам ва улонні
Душу маўклівы лекар працінае
І медсястра халоднаю далонню
Вільготны лоб пужліва выцірае,

Я разумею: мы ў адным хаўрусе,
Як лучнікі, з'яднаныя са смерцю,
І ў гэтай невыносна страшнай скрусе
Адно жаданне — сцішана памерці.

Як звер перадсмяротным хрыпам
Ад болю і нязведанай знямогі,
Зайшліся сцены выраўшымся крыкам,
А моцы не стае, каб сціснуць ногі.



## Акварэлі тваіх нябёсаў

*Мастаку Кшыштафу Цывіньскаму*

*1*

Кропля неба
Сцякае на аркуш тваёй паперы
І стыне халоднымі капяжамі увесну.
Сагрэй іх сваёй рукой, мастак.

*2*

Ты словы не любіш,
Ты любіш літары.
Мелодый не любіш,
Ты любіш гукі.
І рэчы не любіш,
Ты любіш сімвалы.

Сімвалы.
Паўцені.
Імгненні.
Так шмат усяго,
Што ратуе твой дзень.
А ці суцішваюць боль яны твой?
Раскажы.

*3*

Гэта велізарнае акно
На ўсю сцяну ў маім пакоі
Столькі б магло змясціць у сабе.
Ды гляджу праз яго
На пяціпавярховік шэры.

***4***

твой
горад
сустрэў мяне на пероне букетам эстонскіх фіялак
пяшчотных нібыта аблокі
у той
дзень
вясновы
а «Тоўстая Маргарыта» з вуліцы Pikk
клікала
нас
на дах
каваю колеру талінскай чарапіцы
і ты
такі высокі бландын метр дзевяноста
з прыгожым
акцэнтам
частаваў мяне як заўсёды цукеркамі Kalev
глядзеў
радасна зноўку
вачыма твайго мора і маіх беларускіх валошак

***5***

Няўжо
Тады я была свабоднай,
Калі
Магла дыхаць тым жа паветрам,
Што дыхаў ты?

Няўжо
Тады я была свабоднай,
Калі

Кранала далонню дрэвы, кусты,
Што кранаў ты?

Няўжо тады,
Калі
Любіла глядзець на сонца,
Што грэла цябе
І на якое глядзеў ты?

*6*

Раскідаў салоўка пярліны
Па веснавой зеляніне.
Ты ж збіраеш пярліны, збіраеш
І чамусьці іх называеш
Ландышамі.

*7*

Мы не ўжывалі выразы «мы» ці «самі».
І нават не гаварылі пра каханне.
Я ж ведаю, ты не любіш жанчын з цёмнымі валасамі.
Ты проста дасылаеш мне свае кветкі
Ужо другі год
Амаль кожнае ранне.

*8*

Гэты бязлітасны свет
Выпальвае ў душах святло,
Пакідаючы чорныя ямы.
Адчуванне святла,
Каляровых і фарбаў, і ценяў
Пакінь на паперы хіба.



***9***

Тут,
На выспе зямной юдолі,
Дзе блішчыць азяро купавай белай,
Затрымай сёння мяне аберуч,
Не хачу,
Чуеш,
Туды, на волю.

Затрымай,
Раскажу,
Толькі ты запомні,
Як расце раса
І звініць кудменямі,
У падол збірае як ноч жменямі
І пад ногі сцеле яе поўня.



## Вясёлка кахання і любові

***Чырвонае***
***1***

Забяры у нябыт, наваколле,
Скрушны крык звар'яцелага рання —
На гарачым, пякельным вуголлі
Памірае святое каханне.

Ні адзення на ім, ні абутку,
Счырванелі стамлёныя ногі,
Захлынаюцца вочы ад смутку,
Патухае душа ад знямогі.

Рыхтавалі агонь да світання
Вартавыя ваўчынае зграі,
І спалілі святое каханне,
І пазбавілі сэрцайка раю.

Не крычаць ад пакутнай трывогі
Груганоўыя катавы душы.
Толькі тыя згарэлыя ногі
Я у снах бачыць прывідных мушу.

Калі толькі заплюшчу я вочы —
Ва уборах цнатлівых вясельных
Яны вальсам знявечаным ноччу
Па вуголлях кружляюць пякельных.

***Памяранцавае***
***2***

Ты не Адам,
І я была не Евай.
І памяранцам спакушаў не змей.

Ты Зеўсам быў.
І золатам залевы.
Мне напамін — анёлкавы Персей.

Ты не забыў, як у дарожным ранцы
(Бы сімвал старажытнага зароку)
Салодкіх і вясёлых памяранцаў
Прывезла я табе у Празарокі?

Ты ж частаваў мяне тады ласосем
І хмелем невыносна смачным нейкім.
А сонца з неба чырванню лілося,
І чырвань тая казытала вейкі.

І пілі вусны сок з вясёлых смокваў,
І быў той сок салодкі, без аскомы.
І недзе там ля самых-самых крокваў
Пыхцела печ, пускала дым праз комін.

Ты называў мяне тады Данаяй
З-за колеру зрыжэлых валасоў.
...Усё ж як дзіўна нешта нас яднае —
Жанчын эпох усіх і ўсіх часоў!

Яно нас прымушае давярацца
Прызнанням, і паглядам, і багам.
Хоць з Зеўсам атрымаецца наўрад ці,
Заўсёды лепш, калі з табой Адам.

Бо Зеўсы ж маюць часта асаблівасць
Знікаць знянацку — быў дождж і няма.
І што яму анёлак гаманлівы?
Што для яго, урэшце, я сама?

Калі й цяпер ён мкнецца неспадзеўкі
Ударыць громам вышнім, як тады.

Бягуць, віскочуць, мітусяцца дзеўкі.
Бягуць, лятуць іх хуткія гады.

***Жоўтае***
***3***

Хаваючы твар свой пад жоўтым плашчом,
Знямогшыся ад адзіноты,
Пакутаваў дадзеным небам крыжом
Вандроўнік адзін з Карыёту.

Змярцвелую глебу глытком наталяў,
Каб стала хлудзінка аднойчы
Прыгожаю кветкай з сухога былля
І каб адпусціў грахі Ойча.

Хрыстос не стамляўся яго павучаць
І шчыра дзяліць з ім сакрэты,
А Юда і слухаць, і ціха маўчаць
Імкнуўся, спагадай сагрэты:

«Гасподзь прасвятліць цябе Духам Святым
І прыме ў Нябеснае Царства,
Калі толькі годна прайсці зможаш ты
Пакутніцкім шляхам мытарстваў.

Бо мусіш ты ведаць, што ведаю я.
У Божую вечную славу —
Трымае пакуль цябе гэта зямля,
Ідзі і рабі сваю справу».

І сталася так.
І настаўнік Хрыстос
Крыжом неадольным распнуты.
Ды Юда сябе у ахвяру прынёс,
Спазнаў за Ісуса пакуты.

Ад спуду асіна у стромкім віры
Зняслаўлена зашамацела,
Усё калыхала яна на вятры
Зжаўцелае Юдава цела.

І ведаю я: Божы Сын уваскрос,
Каб людзі дзівіліся цуду,
Каб верай і праўдай пакутны Хрыстос
Цябе ўратаваў.
І Юду.
Ад гэтага сёння імпэту свайго
Не збаўлюся, як ад спакусы.
А можа, калі б не было яго,
Не зведалі б мы Ісуса?

## ***Зялёнае***
## ***4***

Я дастаю, нібы з нябыту,
З куфэрка памяці нямой
Тває каралі з малахіту,
Што мне дарыў ты той вясной.

І вечаровую сустрэчу
Люстэрка ладзіць мне з табой,
На аксамітавыя плечы
Кладзе каменьчыкі журбой.

Яны у вочы б’юць сафітам,
Душу пякеляць мне яны.
Тває каралі з малахіту
На шыі быццам валуны.

### *Блакітнае*
### *5*

Ну што ж, заходзь.
Не будзем на парозе
З табой маўчаць разгублена.
Вядома, твае змярцвелі рукі на марозе.
Няхай адыдуць.
А тады дадому.

Дый дому у цябе няма, магчыма.
Такім, як ты, належыць жыць у замку.
І хто ты — незнаёмы мне мужчына?
Чаму стаіш разгублена на ганку?

Быць можа, я сама цябе з блакіту
Стварыла, як анёла незямнога,
З празрыстага, маўклівага нябыту,
На бога так падобнага замнога?

Мо вып’еш кавы горкай?
Ці гарбаты?
На жаль, вось толькі цукру я не маю.
Хоць і жыву, як бачыш, небагата,
Але ж знаёмым грошы пазычаю.

Мне ветлівай, руплівай гаспадыняй
Цябе сустрэць хацелася з дарогі.
Калі ж тваёй я сталася рабыняй?
Рабоў не любяць велічныя богі.

### ***Сіняе***
***6***

Сну няма.
Кручуся доўга ў ложку.
Зноў бяссоннем ноч не абміне.
Моўчкі усміхаюцца валошкі
У празрыстай шклянцы на акне.

Што ж яны паглядам так трывожаць?
Што ж раптоўна так гадзіннік б’е?
Колерам на іх падобны, можа,
Вочы закаханыя твае.

Сну няма.
Фінал бяссоннай ночы.
Той пагляд агнём усё пячэ.
Хай глядзяць валошкавыя вочы
На мяне дакорліва яшчэ.

### ***Фіялетавае***
*7*

Я па шляху стромкаму,
Бы па трапе,
Як мага імкнуся вышэй.
Б’е ж званіцамі гучны Deep Purple,
Не шкадуе пакутных вушэй.

За тваім прымроеным сілуэтам
Я з малітваю:
— Адпусці...
Што ж рабіць цяперака з гэтым?
Ні ляцець не даеш,
Ні ісці.

Ты, як кара Божая,
Як вендэта,
Душыш сэрца мне камянём...
— А ці здолееш
Фіялетавым
Праляцець яшчэ раз агнём?

— Не, не мушу ўжо
І не здолею,
Не хачу услед за табой.
Буду вольніцай лепш на волі я,
Як разыдзецца дым над вадой.

Ты апаленай скрушнай каметаю
Узляцела у вышыню.
Я удзячна табе за гэтую,
За апошнюю дабрыню.

Калі грэшніцай пераборлівай
У далёкі свет адлячу,
Не крыўдуй, не глядзі дакорліва,
Больш спагады тваёй не хачу.

А Каханне парою вясноваю
Выйшла зноўку на свой манеж
І смяецца:
— Мне гімны новыя
Хутка, ведаю, прапяеш!

Падсілкуйся крышку да лета,
Абудзіся ад цёмных сноў,
І малюй мяне фіялетавым,
І чырвоным малюй наноў!



# Змест

**Вершы**
**2012–2021**

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Галавач** (Бондар) Наталля Эдуардаўна

**Вальс пра котку**

*Вершы*

Адказны за выпуск Г. Вінярскі
Рэдактар А. Цімашэнка
Вёрстка Л. Гарадзецкай
Карэктар В. Іваноў

Падпісана да друку 07.05.2022. Фармат 84×108 1/32.
Друк лічбавы. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 4,14. Ул.-выд. арк. 9,24.
Наклад 200 ас. Зак. 146.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.